9 сакавіка 2018 | № 8 (571)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Як далёка зойдзе «#MeToo»?**

**Стар. 8**



# Ісці да Опернага на Дзень Волі — здрада ці гонар?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Калі сцісла, то гісторыя выглядае наступным чынам. Традыцыйны аргкамітэт па арганізацыі Дня Волі з ліку партыяў і грамадскіх арганізацыяў сёлета раскалоўся. Частка абрала легальнае свята ля Оперы, з канцэртам, сцягамі і балонікамі, на якое Мінгарвыканкам даў згоду. Іншыя, у тым ліку Мікалай Статкевіч, стаяць на пазіцыях шэсця: без маршу, маўляў, і 25 сакавіка не тое.**

Першай рэакцыяй грамадскасці на раскол быў, зразумела, «праведны гнеў»: апазіцыя нават на 100-годдзе незалежнасці не можа дамовіцца і прыйсці да агульнага рашэння — усё як заўсёды. Але чым далей, тым цікавей: вельмі хутка апынулася, што два лагеры — усяго толькі падсумаванне сучаснага стану апазіцыі: разбітае ўжо не склееш.

Адны хочуць легальна прасоўваць беларушчыну ды ідэі незалежнасці і гатовыя падаць руку ўладам, калі хоць у нейкіх пытаннях нашы інтарэсы супадаюць. Гучыць абсурдна, але факт: мы так доўга чакалі, што чыноўнікі са шклянымі вачыма пачнуць цаніць гісторыю і незалежнасць, што з цяжкасцю зараз верым, што ўсё гэта не сон. Іншыя, у сваю чаргу, звыкліся, што 25 сакавіка — «не свята» (цытата Статкевіча), але акцыя пратэсту. А якая розніца супраць чаго?.. Гэта дата, калі людзей варта цягнуць на вуліцу пад любым соўсам.

У першай абойме, па выніку, апынулася каманда маладых менеджараў — Белавус, Матолька, Пальчыс, а таксама прадстаўнікі БНФ, «Руху за Свабоду» ды Зміцер Дашкевіч. Другая каманда — гэта найперш Мікалай Статкевіч ды Вячаслаў Сіўчык разам са сваімі паплечнікамі. Парадокс таксама ў тым, што абодва Дні Волі — мабыць, упершыню ў найноўшай гісторыі — будуць праходзіць у розных месцах... Карацей, у вас сваё вяселле, у нас — сваё.

З аргументамі прыхільнікаў канцэрту ля Оперы ўсё зразумела: свята мае быць падобным да свята. Туды варта ісці са святочным настроем, з дзецьмі, з бел-чырвона-белым сцягам, не думаючы, што заўтра прачнешся ў ізалятары на Акрэсціна. Усё ж такія даты трапляюцца ўсяго раз на жыцці: да 200-годдзя БНР наўрад ці хто з нас дажыве. Той момант, што ў гэтую схему ангажаваныя менеджары, кшталту Паўла Белавуса, дае надзею, што апаратура будзе спраўнай, а канцэрт драйвовым: мінімум палітыкі, максімум пазітыву.

А вось з аргументамі «каманды шэсця» варта разабрацца. Першай трэшчынай у аргкамітэце сталі абвінавачванні Статкевіча ў бок кіраўніка БНФ Кастусёва: маўляў, той за спінай усіх астатніх пра нешта дамовіўся з уладамі — і гэта фактычна «здрада». Аргументы сп. Кастусёва аб тым, што ўлады ўсяго толькі прапанавалі яму легальны варыянт з Операй, які ён і прынёс аргкамітэту на разгляд, не падзейнічалі...

Разам з тым, улічваючы рыторыку Статкевіча і Афнагеля пра круглы стол і гатоўнасць да перамоваў, выглядае ўсё гэта як рэўнасць: маўляў, чаму паклікалі некага іншага, а не нас? Кастусёву гэтым разам наўпрост не пашчасціла — звярнуліся акурат да яго.

Аргумент за шэсце гучыць амаль камічна: «Мы заўжды хадзілі, значыць, трэба прайсціся і зараз». Ці прывялі да нейкіх вынікаў больш як дваццаць гадоў хаджэння на Дзень Волі па Мінску, з затрыманнямі і без, з большай ці меншай колькасцю ўдзельнікаў, не ўдакладняецца. Адно, што колькасць удзельнікаў штогадовага свята год ад году няўмольна змяншалася... Але, відаць, нікога гэта не хвалюе.




Ёсць у каманды Статкевіча і «пацанскі» аргумент: шэсце для смелых, канцэрт з танцамі — для слабакоў. «Калі ўдзельнікаў маршу будуць біць, вы і далей будзеце танчыць ля Оперы?!» — даводзіцца чытаць у каментарах. Прабачце, але гэта выглядае на звычайную маніпуляцыю, спробу апеляваць да спагады апанента... Але для чаго?

Магчыма, «камандзе маршу» ўрэшце варта прызнаць, што паспяховая акцыя апазіцыі не абавязкова павінна заканчвацца бойкамі і затрыманнямі? Магчыма, варта прызнаць права людзей на выбар зручнага ім фармату мерапрыемства, а не навязваць шантажам і абвінавачаннямі ў «здрадзе» свой фармат? Магчыма, варта ўзгадаць, што ініцыятар акцыі нясе адказнасць за яе не толькі перад законам, але найперш перад людзьмі, якіх туды кліча?..

Апошні, даволі арыгінальны аргумент за марш, агучаны яго прыхільнікамі, зводзіцца да таго, што адно шэсце можа паказаць выразную антырасійскую пазіцыю беларусаў і кансалідацыю вакол ідэі незалежнасці. Панове, шэсце з 300 ці нават 1000 чалавек не пакажа ніякай кансалідацыі. Найлепшы яе прыклад і значна больш балючы ўдар для Масквы — паказаць, што беларусы разам, іх шмат, а 100-годдзе БНР — агульнанацыянальнае свята, а не нагода для стогнаў перад фотакамерамі. Урэшце, 25 сакавіка — не «свята непаслухмянасці», а Дзень Волі.

***P.S.** Тым часам, як пісаўся гэты артыкул, у сітуацыі адбыліся змены, здаецца, лёд зрушыўся. Статкевіч усё ж такі прызнаў, што лепш за Белавуса канцэрт ніхто не зробіць, ды вырашыў развесці мерапрыемствы па часе, каб не ставіць людзей перад дылемай: куды ісці? Белавус, у сваю чаргу, паабяцаў Статкевічу і Сіўчыку па бутэльцы каньяку ў выпадку, калі ім удасца правесці шэсце без затрыманняў і гвалту. Ці зможа падобны баланс захавацца ажно да 25 сакавіка? Паглядзім.*

**Працяг тэмы на стар. 5 »**

# «Альбо ў іх няма мазгоў, альбо яны ненавідзяць свой народ»



Зінаіда ЦІМОШАК

**Пасля транспартных новаўвядзенняў жыхары Слуцка адчулі шок, які да гэтага часу не праходзіць. Дзяржава ў чарговы раз праявіла «клопат» пра людзей, ад якога нашы грамадзяне ўсяляк спрабуюць адбіцца.**

Пакуль маршрутныя таксоўкі бастуюць на вакзалах, у горадзе ідзе ліхаманкавы збор подпісаў на імя кіраўніка дзяржавы ў абарону былога парадку перавозкі пасажыраў. Падпісваюцца людзі даволі актыўна. Амаль усе жыхары гораду настроены катэгарычна супраць новага закону.

Пенсіянер Алег Іванавіч абвінавачвае ўлады ў тым, што яны не думаюць пра народ, бо не клапоцяцца пра яго праблемы.

— Альбо ў іх няма мазгоў, альбо яны ненавідзяць свой народ, — гаворыць сталы чалавек. — Самі ездзяць на дарагіх лімузінах, а нас заганяюць назад у 1960-я гады адстойваць чэргі за квіткамі. Пенсію плаціць абы-якую і не думаюць пра тое, што мне трэба будзе заплаціць за транспарт да вакзала. Якім чынам я патраплю з прыгарада Слуцка на ранішні рэйс да Мінска, які адыходзіць у 6.05? На дарагой гарадской таксоўцы? Ці народ з Ленек, што ў 15 кіламетрах ад Слуцка па дарозе на Мінск, паедзе ў Слуцк, каб пасля праехаць гэтае ж месца?

На думку пенсіянера, хтосьці хоча нажыцца на гэтым ужо развітым бізнесе, стаць манапалістам і «адціснуць» бізнес.

— З усіх сумнеўных дзяржаўных дасягненняў за апошнія гады менавіта праца маршрутных таксовак заслугоўвала высокай пахвалы, — гаворыць другі суразмоўца, мужчына сярэдніх гадоў, які не захацеў называць свайго імя. — Я інвалід, маю праблемы з нагамі. Каб даехаць да вакзала, мне трэба будзе за маленькую пенсію выклікаць таксоўку. Мяне ж да гэтага часу забіралі каля самага дома. Па тэлефоне зробіш заказ і спакойна чакаеш, калі за табой заедуць. Ветлівае ўважлівае абслугоўванне, прыемная музыка падчас паездкі і інтэрнэт для моладзі.

Случчанін лічыць, што словы чыноўнікаў пра бяспеку пасажыраў — пустыя, бо пра бяспеку можна клапаціцца іншым чынам: праз кантроль над тэхнічным станам транспарту, праз розныя праверкі аўтадарожных інспекцый.

Перавозчык Аляксандр, зарэгістраваны як індывідуальны прадпрымальнік, ужо шмат гадоў праце на маршрутнай таксоўцы і возіць пасажыраў. Ён не выключае магчымасці таго, што ў гэтым бізнесе з'явіўся новы таемны перавозчык, які мае вялікія грошы і хоча заняць месца ІП.

— Пасля прыняцця новага закона аб перавозцы пасажыраў ніхто ў Міністэрстве транспарту да сённяшняга дня не здолеў нам патлумачыць наконт механізму прымянення закона на практыцы, — гаворыць кіроўца. — Да мяне ніколі не было прэтэнзій з боку падатковай. Дарэчы, слуцкія індывідуальныя перавозчыкі на 99 працэнтаў — легальныя і законапаслухмяныя. Кожны прыватнік штомесяц плаціў падатак — 131 рубель на месяц у бюджэт. У Слуцкім райвыканкаме таксама да нас не было прэтэнзій — ні па перавозках, ні па плацяжах. Кожны тэхагляд праходзілі раз на паўгода — гэтак жа, як і аўтапаркі. Кожны дзень — медыцынскі і тэхнічны ўнутраны кантроль. Застрахоўвалі жыццё кожнага пасажыра.

Зараз паміж намі і пасажырамі будзе існаваць так званы «рэгулятар» — пасярэднік-манапаліст «Мінскаблаўтатранс», які не выконвае функцыі перавозчыка, але будзе атрымліваць па 50–60 рублёў на месяц з кожнага аўтамабіля. Для таго, каб пакрыць дадатковыя выдаткі на пасярэдніка, трэба будзе альбо пагаршаць якасць тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіля, альбо павысіць цэны на білеты.

Як паведаміла жыхарка з вёскі Канюхі Капыльскага раёна, ёй 28 лютага давялося наймаць прыватніка, які б вывез яе з вёскі на шашу Слуцк—Мінск, дзе ёй давялося ў марозны дзень больш за гадзіну прастаяць з паднятай рукою.

Вяртаемся ў мінулае стагоддзе?

# Славамір Адамовіч прапануе міністру інфармацыі напісаць артыкул пра БНР

НЧ

**Паэт, былы палітэмігрант Славамір Адамовіч звярнуўся ў Пухавіцкі райвыканкам з лістом, у якім прапанаваў мясцовым уладам адзначыць стагоддзе ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Копію ліста ён даслаў у «Новы Час».**

Адамовіч нагадаў старшыні Пухавіцкага райвыканкама Сяргею Ленкаўцу і кіраўніцы аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Кацярыне Касмольскай, што 25 сакавіка Беларусь будзе адзначаць 100-годдзе прыняцця Трэцяй Устаўнай граматы Беларускай Народнай Рэспублікі. «Гісторыкі лічаць, што менавіта дзякуючы гэтаму кроку сёння мы можам казаць пра Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву. З гэтай высновай пагаджаюцца і многія нашы палітыкі і дзяржаўныя дзеячы», — адзначыў Адамовіч.

Адамовіч працытаваў дырэктара Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдата гістарычных навук Вячаслава Даніловіча, які на круглым стале «1918 год для нашай дзяржаўнасці: набыткі і страты» сказаў: «У нашай дзяржаўнасці былі як гістарычныя формы — дзяржаўныя ўтварэнні на нашай тэрыторыі, пачынаючы ад Полацкага княства, так і нацыянальныя — калі ў назве загучалі словы "Беларусь", "беларуская". Вось гэтыя нацыянальныя карані і бяруць свой пачатак у 1918 годзе, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Так, яна не стала сапраўднай дзяржавай, але гэта была першая спроба практычнай рэалізацыі ідэі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. І гэта вельмі важны момант у нашай тысячагадовай гісторыі».

Адамовіч распавёў райвыканкаму, што шэраг палітычных партый і арганізацый, для якіх дарагія ідэалы дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі, аб'ядналіся ў Нацыянальны аргкамітэт 100-годдзя БНР і дамовіліся аб супольным святкаванні 100-гадовага юбілею як на працягу ўсяго 2018 года, так і 25 сакавіка.

«У сувязі з вышэйпададзеным я, як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, удзельнік Аргкамітэта па святкаванні 100-годдзя БНР і пастаянны жыхар горада Мар'іна Горка прапаную раённай выканаўчай уладзе далучыцца да святкавання, і ў выпадку вашага станоўчага адказу абавязваюся правесці гістарыязнаўчую сустрэчу для жыхароў нашага гарадка ў раённым ДК альбо ў бібліятэцы, а таксама падрыхтую адпаведны матэрыял для газеты «Пухавіцкія навіны», — напісаў Адамовіч.

Акрамя таго, паэт зазначае, што «цяперашні міністр інфармацыі і наш зямляк з Зацітавай Слабады спадар Карлюкевіч Алесь Мікалаевіч у пачатку 90-х гадоў быў маім карэспандэнтам, калі я працаваў стыль-рэдактарам у «Настаўніцкай газеце». Працуючы міністрам, Алесь Мікалаевіч працягвае друкаваць свае краязнаўчыя допісы ў нашай «раёнцы»,таму я ўпэўнены, што ён і сам мог бы падрыхтаваць грунтоўны артыкул пра гісторыю стварэння БНР, і тым пазнаёміць нашых чытачоў з важнай старонкай беларускай гісторыі».

# Як стаць бяздомным у сацыяльна арыентаванай дзяржаве?

**У жыхара Ваўкавыскага раёна Аляксандра Саўко склалася крытычная жыццёвая сітуацыя. Змешчаны на прымусовае лячэнне ад сухотаў, ён не змог плаціць за кватэру, і суд пазбавіў яго жылля без прадстаўлення іншага жылога памяшкання.**

У той жа час абскардзіць гэтае судовае рашэнне, як і прымусовае накіраванне на лячэнне, Аляксандр Саўко не можа, паколькі, зноў жа, не мае сродкаў на аплату дзяржпошліны за падачу скаргі.

Напачатку 2017 года ў Саўко з'явілася першая праблема: захворванне на сухоты.

«5 чэрвеня 2017 года, — піша ў лісце да праваабаронцаў Саўко, — мяне спрабавалі змясціць у Ваўкавыскі тубдыспансер, але дыспансер мяне не прыняў. Праз дзень мяне адвезлі ў Гродна, у абласны цэнтр фтызіятрыі, дзе без дакументаў і дыягназу паклалі ў ізалятар, спаслаўшыся, што ў мяне адкрытая форма сухотаў. Праз 10 дзён высветлілася, што адкрытай формы няма, аднак рэжым застаўся».

На судзе 26 кастрычніка 2017 года, дзе разглядалася пытанне аб прымусовым лячэнні Аляксандра Саўко, медыкі сцвярджалі, што з 7 чэрвеня ён знаходзіўся ў Другім фтызіятрычным аддзяленні Гродзенскага абласнога клінічнага цэнтра «Фтызіятрыя» з дыягназам «актыўны туберкулёз лёгкіх». Падчас знаходжання на лячэнні былі зафіксаваныя факты парушэння хворым правілаў унутранага распарадку, а менавіта: адсутнічаў у стацыянары, знаходзіўся некалькі разоў у стане алкагольнага ап'янення.

Саўко сцвярджае, што гэтыя парушэнні былі сфабрыкаваныя, каб накіраваць яго на прымусовае лячэнне ў абласную туберкулёзную бальніцу «Баяры».

За дзень да суда Саўко прынеслі позву. Ён звярнуўся да загадчыцы фтызіятрычнага аддзялення па дазвол пакінуць стацыянар, каб трапіць на суд. Загадчыца адказала, што ён з'яўляецца грамадска небяспечным хворым, і таму на судзе яму прысутнічаць нельга.

Разгледзеўшы справу па заяве Гродзенскага абласнога клінічнага цэнтра аб прымусовай шпіталізацыі і лячэнні Саўко, суд Ленінскага раёна Гродна ўстанавіў, што факты ўхілення ад лячэння і правілаў унутранага распарадку з боку Саўко даказаныя дакументамі, і накіраваў яго ў прымусовым парадку ў туберкулёзны шпіталь.

Саўко падаў касацыйную скаргу. Аднак суд Ленінскага раёна Гродна прыняў вызначэнне: касацыйная скарга пакінутая без разгляду па прычыне неаплаты дзяржпошліны. Яму прадставілі 5 дзён для аплаты. Толькі дзе ўзяць грошы самотнаму беспрацоўнаму?

На зварот ва ўпраўленне аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама Саўко адказалі, што заканадаўства пры прыняцці рашэння не парушана. Пісаў ён і ў Адміністрацыю прэзідэнта, але яго ліст перанакіравалі ў той жа самы клінічны цэнтр «Фтызіятрыя», які адказаў, што для звароту ў суд меліся падставы.

Паколькі Саўко не змог аспрэчыць рашэнне аб накіраванні яго на прымусовае лячэнне, узніклі праблемы з аплатай камунальных плацяжоў.

27 снежня 2017 года суд Ваўкавыскага раёна разгледзеў пазоў прадпрыемства «Ваўкавыская камунальная гаспадарка» да Саўко аб высяленні яго без прадстаўлення іншага жылога памяшкання.

Суд Ваўкавыскага раёна прыняў рашэнне выселіць Саўко з кватэры у вёсцы Тэалін Ваўкавыскага раёна.

Пры гэтым чалавека, па сутнасці, пакінулі без магчымасці паўплываць на судовыя пастановы, як у выпадку з абскарджваннем рашэння аб прымусовым лячэнні, так і ў сітуацыі з ягоным высяленнем, фактычна пазбавіўшы права на абарону.

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Развальваемся ў прамым сэнсе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падавалася, колькі грошай мы ўклалі ў мадэрнізацыю нашых прадпрыемстваў! З такой фінансавай напампоўкай яны павінны працаваць і працаваць!**



Але замест гэтага яны развальваюцца, іншым часам — літаральна. Міжволі ўзнікае пытанне: можа, мы нешта робім не так? Альбо не з тымі?

Некаторыя сферы працуюць даволі паспяхова. Мадэрнізаваная беларуская «малочка», напрыклад, зазнае крызіс перавытворчасці. Прынамсі, так лічаць расіяне. У мінулым нумары мы пісалі пра іх прэтэнзіі. І чарговы раз пераконваемся: яны маюць не санітарныя, а эканамічныя і палітычныя падставы.

Калі б беларускае малако сапраўды было шкодным — яго трэба было б забараніць адразу. Але «Рассельгаснагляд» перанёс дату забароны з 26 лютага на 6 сакавіка. Бліжэй да 6 сакавіка стала вядома, што забарона на «санітарна небяспечныя» прадукты пераносіцца ў чарговы раз — на 15 сакавіка. Потым, напэўна, яна будзе адкладзена яшчэ і яшчэ.

Гэта азначае, што з нашым малаком, насамрэч, усё добра. Мы ж не паверым, што «Рассельгаснагляд» свядома труціць свой народ, адкладаючы забарону на ўвоз небяспечнай прадукцыі? А значыць, відавочна, што гэта — лабісцкія дзеянні расійскага ведамства, скіраваныя на тое, каб «падгадзіць» беларускай малочцы.

Такія дзеянні ў сучасным свеце не толькі небяспечныя, але і амаль бессэнсоўныя. Асабліва ва ўмовах адсутнасці мяжы Расіі і Беларусі. Ужо былі часы, калі расіяне са Смаленску затарвліся якаснымі беларускімі прадуктамі ў суседнім Віцебску. І калі «Рассельгаснагляд» зноў забароніць беларускае малако — сітуацыя будзе паўтарацца.

Кіраўнік «Рассельгаснагляду» Сяргей Данкверт вырашыў зноў палохаць нас. У інтэрв'ю тэлеканалу «Расія 24» ён паведаміў, што пасля 1 ліпеня 2018 года з беларускімі пастаўкамі ў Расію зноў могуць быць праблемы. Па яго словах, з 1 ліпеня ў Расіі пачнуць дзейнічаць электронныя ветсертыфікаты. «А беларуская прадукцыя як будзе заязджаць? Па папяровых? А ў нас іх ужо нікуды не запішаш, у нас яны павінны быць у электронным выглядзе. Мы не будзем на мяжы папраўляць і ўносіць папяровыя сертыфікаты ў электронным выглядзе, у нас на гэта людзей няма», — сказаў кіраўнік расійскі чыноўнік і дадаў, што без электронных сертыфікатаў прадукцыю будуць заварочваць.

Што ж, можна параіць Сяргею Аляксеевічу азнаёміцца з дэкрэтам Аляксандра Рыгоравіча «Аб развіцці лічбавай эканомікі». У выніку яго рэалізацыі мы не толькі электронныя сертыфікаты зробім — мы нашу смятану будзем за біткойны прадаваць. У Данкверта ёсць біткойны?

З іншымі інвестпраектамі — не так аптымістычна. Новы завод белёнай цэлюлозы каля Светлагорска можа ператварыцца ў даўгабуд. З аднаго боку, гэта і да лепшага — у лістападзе мінулага года жыхары навакольных вёсак скардзіліся на смурод ад выкідаў з прадпрыемства. 25 снежня нават прайшоў стыхійны мітынг супраць завода. У выніку Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя правяло экалагічную экспертызу і прыпыніла працы яшчэ 17 студзеня.

Па словах Алены Маслюковай з праваабарончага цэнтру «Вясна», праца на заводзе не адновіцца, пакуль там не выправяць усе непаладкі. «А непаладак там столькі, што ў нас уражанне, што ён зусім працаваць не будзе», — сказала Маслюкова.

У прэс-службе канцэрна «Беллеспапераапрам» сказалі, што непаладкі на заводзе пакуль не выпраўляюць, бо ўся кампанія «САМС» — генеральны падрадчык з Кітаю — з'ехала на святкаванне кітайскага Новага года! «Цяпер мы чакаем іх вяртання. Спадзяюся, калі яны вернуцца, адновяць працы», — сказала прэс-сакратара канцэрна Ружэна Навіцкая.

Кітайскі Новы год прыпаў на 16 лютага. Зараз ужо сакавік. Мажліва, кітайцы разлічвалі, што будаваць завод у Беларусі яны будуць паводле сваіх стандартаў якасці. Маўляў, кітайцаў паўтара мільярды, іх не шкада, можна і патруціць. Але з беларусамі тое не спрацавала, і вяртацца падрадчыкі нават не збіраюцца.

Жыхарам — шчасце, але колькі грошай мы страцілі на памылковую будоўлю?

Нядаўна мы таксама мадэрнізавалі наш флагман — БМЗ. Увечары 5 сакавіка там адбыўся пажар у кабельным тунэлі. Агонь пашкодзіў 30600 пагонных метраў ізаляцыі электракабеляў, з-за гэтага часова прыпынілі працу тры цэхі завода: электрасталеплавільны цэх №1, сортапракатны цэх №1 і копраы цэх.

Усё б нічога, але як адкаментавалі здарэнне і спыненне вытворчасці на самім БМЗ? Не паверыце — у стылі «так яно і павінна быць»!

Пажар на Беларускім металургічным заводзе ў Жлобіне адбыўся акурат напярэдадні планавага прыпынення металургічнай вытворчасці, сказалі БелТА ў прэс-службе БМЗ. Маўляў, усё роўна з 7 па 14 сакавіка планавалася прыпыненне вытворчасці ў рамках праекта «Павелічэнне прадукцыйнасці ўчастка пазапечнай апрацоўкі сталі». «Гэтая акалічнасць мінімізуе вытворчыя страты БМЗ, бо фактычна мы былі гатовыя да прыпынення сталеплавільных печаў», — кажуць на БМЗ.

Пэўныя праблемы ўзніклі і ў іншага «флагмана беларускай эканомікі» — наваполацкага нафтаперапрацоўчага прадпрыемства «Нафтан». Але вырашаюць яны іх вельмі слушным чынам — пазбаўляюцца ад «няпрофільных актываў». «Нафтан» выставіў на таргі пансіянат «Салтыкоўка» ў падмаскоўнай Балашысе.

Пансіянат размешчаны ўсяго ў пяці кіламетрах ад маскоўскай кальцавой. Тэрыторыя пансіяната — больш за дзевяць тысяч квадратных метраў, на якіх размешчаны вялікі трохпавярховы дом прыёмаў з ліфтам, гасцявы дом з саўнай, басейнам, більярдавай залай і 14 спальнямі, вялікая закрытая альтанка з мангалам, пляцоўка для адпачынку з міні-сажалкай, адкрытая паркоўка на дзесяць аўтамабіляў, газавая кацельня, будынак для персаналу і аховы.

Зараз зямельны ўчастак, на якім размешчаны пансіянат, знаходзіцца ў бязвыплатным карыстанні пасольства Беларусі ў Расіі. Але пасля продажу пансіяната гэты дагавор будзе скасаваны. Стартавы кошт «Салтыкоўкі» — 280,2 мільёна расійскіх рублёў (4,96 мільёна долараў).

Я ўвогуле здзіўляюся, што такія пансіянаты яшчэ існуюць. Якое можа быць аздараўленне ў пяці кіламетрах ад маскоўскай кальцавой? Лепш за тыя грошы перапрафіляваць у санаторыі тры піянерскія лагеры. Усё роўна масквічы ездзяць адпачываць да нас.

Але тэндэнцыя ўсё ж заўважная. І не вельмі радасная.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Палітвязень не здолеў патрапіць на судовы разгляд сваіх скаргаў, бо суд пашкадаваў грошай, каб прывезці яго на працэс.**

Калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда разгледзела скаргу Міхаіла Жамчужнага 5 сакавіка. Згодна з матэрыяламі справы, зняволенага ў жніўні 2017 гадах тройчы каралі суткамі ў штрафным ізалятары за тое, што ён адмаўляўся перайсці ў іншы атрад калоніі. Інтарэсы Жамчужнага ў судзе прадстаўляў адвакат Вадзім Мушынскі, які паскардзіўся на нежаданне адміністрацыі ВК і суда даставіць падабароннага ў суд.

Вердыкт калегіі відавочны — скаргі адхіленыя. Аднак больш абурэнне выклікала матывацыя суда не прывозіць Міхаіла Жамчужнага на працэс асабіста. «У нарматыўных актах не прапісаныя выдаткі на дастаўку зняволенага на судовае пасяджэнне па яго заяве», — заявіла суддзя Ірына Маймусава.

Пры гэтым у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гаворыцца, што чалавек, які адбывае зняволенне, мае права прадстаўляць свае інтарэсы ў судзе асабіста.

«Атрымліваецца, што калі б я не абараняў Міхаіла, яго скаргу наогул маглі не разгледзець. А так хоць прачыталі», — пракаментаваў словы суддзі Мушынскі.

Праваабаронца Барыс Бухель, які наведаў пасяджэнне, лічыць, што пасля такіх слоў суддзяў калегіі трэба пазбавіць дыпломаў юрыста. «Ёсць вышэйшыя нарматыўныя акты, у якіх прапісана права на ўдзел у судовым працэсе. Але для Магілёўскага абласнога суда самае галоўнае — гэта, бачыце, што не прапісаныя выдаткі на дастаўку ў суд. Спадзяюся, гэтыя суддзі нідзе не выкладаюць», — заўважыў Бухель.

## Валерый Варанецкі



**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня пастаяннай камісіі па міжнародных справах у прамым эфіры «Еўрарадыё» заявіў, што ўладам патрэбны Дзень Волі.**

Пры гэтым Варанецкі дадаў, што дазвол на святкаванне Дня Волі ў цэнтры Мінска сталічныя ўлады не анулююць і ніякіх «чорных спісаў» музыкантаў з ліку ўдзельнікаў канцэрта ля Опернага тэатра не будзе.

«Я ўпэўнены, што такога не можа быць. Тыя, хто лічыць, што дазвол быў атрыманы, дзякуючы таму, што апазіцыя дацiснула ўладу, моцна памыляюцца. Бо ўлада сама зацікаўленая ў тым, каб было стабільнае развіццё, каб умацаваць грамадства, нацыянальную самасвядомасць і гэтак далей. Проста вельмі важна, каб і другі бок разумеў, што ніякія правакацыі не патрэбныя. Сёння трэба думаць пра краіну, дзяржаву, пра будучыню нашу, а не пра рэалізацыю сваіх амбіцый. Менавіта таму я ўпэўнены, што ўлады маюць самыя сур'ёзныя намеры», — сказаў Варанецкі.

Па словах Валерыя Варанецкага, улады разумеюць, што сёння вельмі важным элементам бяспекі дзяржавы з'яўляецца кансалідацыя нацыі. А кансалідаваць і аб'ядноўваць нацыю можна толькі на сваёй нацыянальнай гісторыі, сваіх нацыянальных традыцыях. Адным з такіх кансалідуючых беларусаў фактаў з'яўляецца 25 сакавіка 1918 года. Гэта ўлады не толькі ўсвядомілі, але і прынялі як факт.

Цікава, дзе быў Варанецкі 25 сакавіка год таму?

## Дзяніс Шунто



**У беларускім футболе ўзнік вялікі скандал. Апеляцыйны камітэт Беларускай федэрацыі футбола адправіў футбольны клуб «Крумкачы» ў другую лігу.**

Гэтае рашэнне было прынятае, дэ-факта, з-за бюракратычных працэдураў: маўляў, клуб своечасова не прадставіў дакументы, якія патрэбныя для яго ліцэнзавання ў вышэйшай лізе. Па меркаванні некаторых футбольных адмыслоўцаў, такім чынам чыноўнікі АБФФ расчысцілі месца для ўваходжання ў вышэйшы дывізіён мінскаму «Тарпеда».

Старшыня «Крумкачоў» Дзяніс Шунто пракаментаваў адхіленне апеляцыі так: «Гэта сапраўднае злачынства. За пратэрміноўку дакументаў нас прысудзілі да смяротнага пакарання. Мы перайшлі дарогу на чырвонае святло, а нас прысудзілі да смяротнага пакарання. Вось і ўсё».

Ён мае намер падаваць дакументы ў Беларускі арбітражны камітэт.

# Калі нас накрые трэцяй хваляй фемінізму



Мікалай ДЗЯДОК

**Пра феміністак зараз хто толькі не піша. На Захадзе ўсё часцей галоўнымі тэмамі, што варушаць грамадскую думку, робяцца тыя, што так ці інакш звязаныя з гендарным пытаннем. Ці мусяць існаваць асобныя прыбіральні для трансгендараў? Ці варта выкарыстоўваць словы «маці» і «бацька» ў афіцыйных дакументах? Людзьмі года часопіс «Time» назваў жанчын, якія расказалі пра дамаганні Харві Вайнштэйна.**

Не абыходзіць гэта тэма і Беларусь — дастаткова ўзгадаць пратэсты (адбылося нават цэлае несанкцыянаванае мерапрыемства) феміністак з нагоды рэкламы бялізны «Mark Formelle». А колькі шуму нарабіла сексісцкае выказванне Ярмошынай пра «варыць баршчы замест хаджэння на Плошчу»?

## Тры хвалі

Хайп вакол феміністычнай тэмы не з'яўляецца вынаходніцтвам 2010-х гадоў — ім суправаджалася кожная з трох хваляў фемінізму.

Да першай хвалі (другая палова XIX стагоддзя) адносяць рух суфражыстак — жанчын, якія дамагаліся роўных з мужчынамі палітычных правоў — у прыватнасці, права галасаваць на выбарах. Да другой — шырокі рух 1960-х гадоў, які змагаўся за раўнапраўе ў побыце, права на аборты і супраць забаронаў на прафесіі для жанчын.

Аднак менавіта фемінізм трэцяй хвалі прэтэндуе на самыя радыкальныя змены не толькі ва ўзаемаадносінах палоў, але і побыце, штодзённых звычках, культуры, і нават мове кожнага чалавека.

## Сацыялогія і філасофія на службе фемінізму

Фемінізм трэцяй хвалі запачаткаваны напрыканцы 1980-х — напачатку 1990-х гадоў, і непарыўна звязаны з сацыялагічнай канцэпцыяй інтэрсекцыянальнасці (анг. «intersection» — «перасячэнне»), якая ўспрымае грамадства падзеленым на сотні розных груп і ідэнтычнасцяў: па такіх прыкметах, як клас, раса, гендар, сексуальная арыентацыя, знешняя прывабнасць, супадзенне біялагічнага і сацыяльнага полу і гэтак далей. Гэтыя характарыстыкі часцяком робяцца падставай для дамінавання адной супольнасці над другой: белая жанчына знаходзіцца ў прывілеяваным стане адносна чорнай, а працоўны-гетэрасексуал — прывілеяваны (ці нават прыгнятальнік) у дачыненні да працоўнага-гея, бо першы падпадае пад гетэрасексуальныя нормы, а другі, наадварот, пакутуе ад іх.

Такім чынам, фемінізм трэцяй хвалі сцвярджае, што адзінства ўсіх жанчын быць не можа, бо нават сярод іх існуюць групы больш прыгнечаных (чорныя, лесбіянкі, «непрыгожыя», жанчыны з інваліднасцю, трансгендарныя жанчыны і гэтак далей) і менш прыгнечаных (белыя, гетэрасексуалкі, знешне прывабныя, фізічна здаровыя, цысгендарныя і гэтак далей). Ніякага «ўніверсальнага досведу» ўсіх жанчын няма, і першыя з другімі ніколі не паразумеюцца.

Філасофскі падмурак фемінізму трэцяй хвалі — постструктуралізм. Ён адмаўляе панятак нормы ўвогуле, сцвярджаючы: тое, што навязана нам як норма, насамрэч, сфармавана мовай і ідэалогіяй, якія пануюць вакол нас з дзяцінства. У разуменні постструктуралістаў, перафразуючы Маркса, «мова вызначае свядомасць», і стварае сацыяльныя адносіны, якія усталёўваюць прыгнёт. Гэта не толькі традыцыйныя сямейныя ролі, але і гендар (сацыяльны пол) як такі. На іх меркаванне, людзі ад нараджэння маюць толькі фізіялагічную палавую прыналежнасць, якая вызначаецца хіба нязначнымі адрозненнямі ў целаскладзе. Усё астатняе закладаецца соцыумам. Калі б не было соцыуму, мы жылі б у грамадстве, дзе паняткаў «мужчына» і «жанчына» не існавала б.

Такім чынам, калі феміністкі другой хвалі змагаліся за адмену гендарных стэрэатыпаў, феміністкі трэцяй хвалі патрабуюць адмену гендараў як такіх, — і, у першую чаргу, праз змену культуры і мовы, якія, на іх думку, утрымліваюць прыгнёт і замацоўваюць няроўнасць. Адсюль мода на фемінітывы, патрабаванне адмяніць паняткі «маці» і «бацька», прасоўванне гендарна нейтральных займеннікаў...

Шмат што з канцэптаў феміністак, якія зараз шырока абмяркоўваюцца на Захадзе, могуць шакаваць беларусаў. Напрыклад, панятак гендарфлюіднасці (рухомасці гендараў), згодна з якім чалавек можа прачнуцца зранку, адчуваючы сябе адным гендарам, а заснуць — з іншым, і гэта цалкам нармальна. Альбо патрабаванне да мужчын мачыцца седзячы, вакол якога пабудаваныя цэлыя грамадскія кампаніі.

## Дасягненні і крытыка

Сабе ў актыў феміністкі трэцяй хвалі могуць запісаць шэрагі дасягненняў, якія ўжо лічацца трывалай часткай заходняй культуры. Па-першае, гэта амаль паўсюдны дазвол на аднаполыя шлюбы. Менавіта пад ціскам феміністычнага і ЛГБТ-руху «здаліся» большасць краін Еўропы, а потым і ЗША. Па-другое — масавае прыняцце эфектыўных законаў супраць хатняга гвалту на нацыянальным і міжнародным узроўнях. Па-трэцяе — узняцце праблемы сексуальных дамаганняў і згвалтаванняў, у тым ліку на працоўным месцы. Феміністычны рух апошніх дзесяцігоддзяў спрычыніўся да таго, што гэтая тэма перастала быць табуяванай, а ахвяра сексуальнага гвалту ўжо не баіцца публічна агучыць тое, што з ёй адбылося. Сучасныя феміністкі з пераменным поспехам змагаюцца за роўныя заробкі для мужчын і жанчын, за правы трансгендараў і прастытутак, супраць стандартаў прыгажосці.




Практычнае выказванне ідэй сучаснага фемінізму, аднак, нярэдка робіцца аб'ектам крытыкі. Найперш, гэта практыка «пазітыўнай дыскрымінацыі», калі лічыцца, што жанчыны — як больш прыгнечаны слой насельніцтва — мусяць мець квоты ў прыёме на прафесіі, ва ўніверсітэты ці ў органы ўлады (накшталт 30–40% квотаў для жанчын у парламентах). Феміністкам пярэчаць: набор куды б ні было мусіць адбывацца на конкурснай падставе, па асабістых якасцях, бо ва ўмовах фармальнай прававой роўнасці прадстаўленне прывілеяў — несправядлівасць.

Барацьба феміністак супраць аб'ектывацыі (успрымання жанчын выключна як сексуальнага аб'екту) у скрайніх праявах прыводзіць да патрабаванняў забараніць эратычныя выявы жаночага цела ўвогуле. Напрыклад, пэўны час таму з галерэі Мастацкага музея Манчэстэра пад ціскам феміністак была прыбраная карціна Джона Уільяма Вотэрхаўса «Гілей і німфы». На яе месца быў павешаны заклік адміністрацыі галерэі да дыскусіі пра тое, як інтэрпрэтаваць творы XIX стагоддзя ў сучасных рэаліях і ці варта лічыць іх «сексісцкімі» (карціну, праўда, хутка вярнулі на месца).

Яўны перакос назіраецца і ў барацьбе з дамаганнямі. Пасля выкрыцця Вайнштэйна і флэшмобу «#MeeToo» ў сацсетках скаргі на дамаганні на адрас публічных персон пасыпаліся як з вядра. Спецыфіка ж ЗША і Еўропы такая, што часам дастаткова аднаго толькі публічнага абвінавачання ў «харасменце», каб зруйнаваць кар'еру чалавека і запусціць яго публічную траўлю. Услед за барацьбой феміністак са «скрадзенымі пацалункамі» і «несанкцыянаванымі дотыкамі» пачаліся размовы і пра «візуальныя дамаганні».

Змаганне з дамаганнямі пераўтварылася ў паляванне на ведзьмаў — такую думку выказала Катрын Дэнёў у «Лісце ста жанчын». У ім яна разам з сотняй прадстаўніц інтэлігенцыі заклікала не пераўтвараць барацьбу з дамаганнямі ў барацьбу з сексуальнасцю, і захаваць за мужчынамі права быць актыўным бокам у зносінах.

«Перагібы» ў барацьбе за роўнасць выклікаюць не толькі шквал крытыкі, але і спрыяюць зваротнай рэакцыі. Стаміўшыся ад патрабаванняў быць паліткарэктнымі, абвінавачанняў у сексізме і мізагініі, многія мужчыны папаўняюць шэрагі ўльтраправых ці прыхільнікаў Трампа.

## Ці накрые Беларусь трэцяй хваляй?

Усе гэтыя аповеды могуць падацца далёкімі і адцягнутымі, калі не ўлічваць адну рэч: ледзь не ўсе сацыяльна-палітычныя трэнды, што падымаюцца ў ЗША і Заходняй Еўропе, праз 5–20 гадоў прыходзяць ва Усходнюю Еўропу. А затым — і ў Беларусь. Дык можа і нам варта чакаць увядзення гендарна нейтральных займеннікаў у якасці перадвыбарчага абяцання кандыдатаў у прэзідэнты?

Магчыма і так, але ёсць нюанс. У Беларусі не было ані першай, ані другой хвалі фемінізму. Усе правы, якімі зараз карыстаюцца жанчыны, былі не вынікам доўгай грамадзянскай барацьбы, а вынікам змены ўлады.

Пакуль у Еўропе віравала першая хваля, у Расійскай імперыі барацьба за правы жанчын была ўдзелам нешматлікіх інтэлектуалак з ліберальных колаў дваранства. Пакуль ішла другая — у БССР панавала «лінія партыі», згодна з якой нашы жанчыны былі самымі шчаслівымі ў свеце. У краіне, дзе кіраўнік дзяржавы кажа, што «кіраваць — не жаночая справа», а старшыня ЦВК лічыць, што жанчына мусіць «варыць боршч», спробы прычапіць пастулат пра тое, што мужчынаў і жанчын не існуе, а існуюць толькі гендарныя забабоны, нагадвае спробы запусціць паравы кацёл у космас.

У нашай краіне, пры наяўнасці сур'ёзных праблемаў у плане няроўнасці (гэта і хатні гвалт, і забароны на прафесіі, і звышнізкая працаздольнасць жыцця мужчын) яны выглядаюць бляклa на фоне таго, што не толькі жанчыны, а ўсе грамадзяне Беларусі, фактычна, не маюць улады над уласным жыццём.

Тут, падаецца, усім беларусам — і мужчынам, і жанчынам — будзе карысны досвед феміністак 1960-х гадоў, якія бачылі сваю барацьбу часткай агульнай барацьбы за палітычныя правы, правы студэнтаў, ЛГБТ, чарнаскурых, за пашырэнне межаў свабоды ў грамадстве.

Паралелі напрошваюцца самі сабой: гвалт з жанчын у сям'і і міліцэйскі гвалт на вуліцы, пагарда меркаваннем жанчыны і пагарда галасам выбаршчыкаў, традыцыяналісцкія клішэ пра «месца жанчыны» і пра тое, што «народу не патрэбная дэмакратыя», — гэта ўсё з'явы аднаго парадку. Таму і здабыць свабоду для 53 працэнтаў насельніцтва Беларусі можна хіба толькі ў працэсе здабычы свабоды для Беларусі ўвогуле.

# Мікалай Статкевіч: «Я не разумею істэрыі вакол маёй персоны»

Генадзь КЕСНЕР

**Пасля таго, як адзін з лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэса заявіў пра неабходнасць у любым выпадку зладзіць у Мінску шэсце 25 сакавіка на Дзень Волі, прымеркаванае да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, у інтэрнэце і СМІ на палітыка абрынуўся шквал крытыкі.**





Многія называлі яго, напрыклад, правакатарам, які, маўляў, дзеля задавальнення ўласных амбіцыяў гатовы зноў кінуць людзей пад міліцэйскія дручкі, ператварыць свята ў чарговую бессэнсоўную акцыю пратэсту. «Новы Час» пагутарыў з самім Міколам Статкевічам.

***— Як вы ставіцеся да крытыкі на свой адрас у інтэрнэце і традыцыйных СМІ з нагоды прапанаванага вамі фармату адзначэння юбілею БНР у выглядзе шэсця ў цэнтры сталіцы?***

— Спакойна, бо разумею матывы гэтай крытыкі. Я адразу адкіну тых, хто персанальна не хоча стаяць перад выбарам — выходзіць на, магчыма, не санкцыянаванае шэсце або адчуваць сябе неяк ніякавата і гэтак далей. Я пра іншае. Думаю, гэта меркаванне аднаго грамадскага слоя. Слоя, які падзяляе ідэалы незалежнасці, які прасунуты, які ведае, што такое БНР, і хоча святкаваць яе юбілей. Але, на жаль, гэты слой у абсалютнай меншасці ў нашым грамадстве, хаця ў пэўным сегменце Фэйсбука ён, безумоўна, пераважае, і не больш за тое.

А я ў сілу сваіх партыйных і грамадскіх абавязкаў мушу думаць пра стаўленне большасці беларускага народа. Бо ў мінулым годзе нам упершыню за доўгі-доўгі час, ад самага пачатку 1990-х, удалося звярнуць усю ўвагу на сябе, на свае ідэі, на гэтую дату. Гэта каштуе вельмі дарагога, бо без падтрымкі большасці народа мы раней ці пазней наступім на тыя ж граблі. Я ўспамінаю пачатак дзевяностых, калі выходзілі тысячы і тысячы, са сцягамі, і святкаванні былі ў цэнтры, і канцэрты, і ўсё было цудоўна. А потым людзі пайшлі на выбары і абралі зусім іншых палітыкаў. Наступствы мы разграбаем дагэтуль.

25 сакавіка мінулага года беларускі народ, прынамсі, пратэстная і найбольш актыўная яго частка, надала гэтаму дню новы ясны сэнс. Гэта дорага каштавала людзям, але давер, які спарадзіўся, першыя яго парасткі да нашых ідэяў, да нашых поглядаў і да нашых арганізацыяў, урэшце, і персаналіяў нельга загубіць. Гэтыя людзі, якім зараз не да святаў і не да канцэртаў, і асабліва не да гісторыі, вельмі кепска зразумеюць нас, калі мы ўсяго толькі пойдзем да таго месца ў загародку, каб толькі святкаваць і не больш.

Я не супрацьстаўляю свята шэсцю, мы ж падалі заяўку і на тое, і на тое, але я настойваю на тым, каб было годнае шэсце, каб людзі маглі прыйсці туды са сваім болем, праблемамі і нават пратэстам. Бо свята святам, а мы ладзім гэта як святочнае шэсце, але ж заўсёды ўсе шэсці на гэты дзень уключалі магчымасць для людзей выказацца пісьмова ці скандаваннем пэўных лозунгаў. І пратэстных лозунгаў мы ні ў каго забіраць не будзем.

***— Ці мусяць турбавацца з гэтай нагоды тыя, хто арганізуе святочны канцэрт каля Опернага тэатра?***

— Тым, хто так хацеў канцэрта, варта супакоіцца, бо яны атрымалі тое, што хацелі, дзякуючы нам. Няўжо не зразумела, што калі б там не было Беларускага нацыянальнага кангрэса і тых, хто выходзіў на несанкцыянаваныя шэсці два з паловай гады, то ніякай пляцоўкі каля Опернага тэатра мы б не атрымалі? Быў бы звыклы Бангалор, і ўсе туды звыкла б пайшлі.

Я не разумею гэтай істэрыі, гэтых абраз з нагоды таго, што пэўная колькасць людзей хоча захаваць традыцыю шэсця, не хоча даць магчымасць уладзе выставіць нас перад народам, перад большасцю як нейкіх блазнаў, якія збяруцца і будуць скакаць, калі людзям усё горай і горай, да таго ж у гадавіну жудаснага разгону. Чаму вы так супраць выбару?

Мы проста даем выбар, і я не спадзяюся, што людзей, якія выберуць шэсце, калі ўлады яго ўсё ж не дазволяць, будзе болей, чым тых, хто збярэцца толькі на канцэрт. Зараз мы спрабуем пасоўваць час пачатку шэсця, бо пакуль гэты час супадае з пачаткам канцэрту.

> **Я не супрацьстаўляю свята шэсцю, мы ж падалі заяўку і на тое, і на тое, але я настойваю на тым, каб было годнае шэсце, каб людзі маглі прыйсці туды са сваім болем, праблемамі і нават пратэстам**

Думаю, тыя з удзельнікаў шэсця, хто захочуць паспець на канцэрт, яны паспеюць. Таму ўсё нармальна, усім варта супакоіцца і разабрацца найперш у сабе, у сваіх унутраных матывах. Даруйце, я вам не псіхатэрапеўт, я раблю тое, што павінен рабіць. Нехта павінен думаць, што будзе на наступны дзень пасля гэтага свята, што будзе з Беларуссю праз год, праз два і ці захаваецца яна.

***— Ці не адштурхне ад удзелу ў шэсці пэўную частку людзей, калі яно не будзе дазволенае? Бо яшчэ свежыя ўспаміны пра леташнія падзеі 25 сакавіка.***

— Хай людзі наўпрост ідуць на канцэрт. Мы ж даем выбар. У чым праблема? У чалавека ёсць выбар — шэсце або канцэрт, або тое і тое, або нічога. Але навошта бэсціць тых, хто выбраў варыянт паказаць наш сцяг не толькі сярод дрэваў, а на Праспекце Незалежнасці ў 100-ю гадавіну БНР, выбраў годнае шэсце, каб паказаць нашаму народу, што мы памятаем пра яго, што мы не зрабіліся нейкімі ручнымі і памятаем пра тое, што адбылося год таму. Чаму трэба бэсціць і зменшыць іх колькасць? Я не разумею. Я ж не заклікаю нікога, маўляў, не хадзіце на канцэрт, наадварот, мы ж стараліся для вас, мы здабылі яго для вас. Хоць маглі здабыць усё разам, але дзякуючы сепаратным дзеянням меншасці аргкамітэта мы зараз спрабуем усё гэта выдраць па кавалках: канцэрт ёсць, зараз выдзіраем шэсце.

Калі за свабоду ніхто не змагаецца, яна знікае. Сцяг, які не з'яўляецца ў цэнтры сталіцы, пераўтвараецца ў сцяг секты. Мы хочам усё гэта вярнуць у свядомасць, мы хочам свабоды і незалежнасці Беларусі. Тыя косткі, што ўлады нам зараз кідаюць, яны пераломяць сітуацыю? Хіба ў нас ужо не перастае змяншацца колькасць тых, хто навучаецца на беларускай мове? Ці ўжо з'явілася нешта незалежнае ў палітыцы? Вы не ведаеце, што зараз робіцца ў войску. Войска зараз рыхтуецца наўпрост да вайны з Захадам, устаноўкі зараз такія: Захад — вораг, Расія — усё. І так ва ўсіх сферах. Улада навучылася залагоджваць — дадуць якую дробязь, і ўсе ўжо шчаслівыя — ай-яй-яй, наступіла беларусізацыя! Не трэба сябе падманваць.

Але я пра іншае. Мы можам нешта змяніць, калі мы сфармуем новую большасць і будзем яе лідарамі. Гэта асноўнае. Я над гэтым зараз думаю і спрабую нешта рабіць. Таму хаця б не замінайце!..

## Каго мы ўбачым на канцэрце 25 сакавіка

**Склад выступоўцаў мінскага «Свята незалежнасці», што пройдзе 25 сакавіка ля Опернага тэатру ад 14-й да 19-й гадзіны, пакуль толькі папярэдні. Некаторыя выканаўцы далі згоду, з некаторымі ідуць перамовы.**

Як расказаў арганізатар музычнай часткі «Свята незалежнасці» Уладзімір Плавінскі, на сёння статус запрашэнняў такі:

Лявон Вольскі «вельмі хоча быць», кажа Плавінскі, але ў яго на 25 сакавіка даўно быў запланаваны канцэрт у польскім Беластоку на афіцыйным мерапрыемстве, які вельмі цяжка перанесці. Аргкамітэт спадзяецца, што Вольскі будзе на мінскім канцэрце, але магчыма нават, што Вольскаму давядзецца выступаць у адзін дзень у дзвюх краінах. Ці выступіць Вольскі адзін, ці з электрычным складам «Крамбамбулі», ці з тым складам, з якім граў сольныя альбомы, пакуль не вядома.

Сяргей Міхалок (гурты «Brutto» і «Ляпіс-98») запрошаны на канцэрт, але 25 сакавіка мае даўно запланаваны канцэрт у Мазыры. «Пакуль у арганізатараў не атрымалася з ім дамовіцца», — кажа Плавінскі.

«Крама» пагадзілася на выступ. Ігар Варашкевіч на канцэрце 4 сакавіка ўпэўнена казаў, што выступіць на свяце.

«Dzieciuki» дакладна збіраюцца выступіць.

«Neruo Dubel», напэўна, выступіць. «Вядуцца перамовы, ёсць пытанні, але, хутчэй за ўсё, таксама будзе», — тлумачыць Плавінскі.

«Amaroka» дакладна збіраецца выступіць, але ці поўным складам, ці малым з акустычнай праграмай, пакуль не вядома. Гурт толькі нядаўна адрадзіўся пасля «творчага перапынку», які доўжыўся з сярэдзіны 2016 года.

«J:Морс» «імаверна будзе, але таксама яшчэ пад пытаннем».

Пётра Клюеў з гурту «ЛСП» дакладна збіраецца выступіць.

«Akute» ужо мае запланаваны канцэрт у Магілёве ўвечары 25 сакавіка, але, верагодна, паспее выступіць у той жа дзень у Мінску на пачатку канцэрту.

На канцэрт і мітынг вядзецца збор грошай: на Talaka.by ужо сабралі больш за 70% неабходнай сумы, таксама грошы збіраюць іншымі шляхамі. Арганізатары шукаюць спонсараў сярод камерцыйных кампаніяў, першым такім спонсарам стала мэблевая фірма «Цесляры» Змітра Дашкевіча.

# Насамрэч у Мінску няма

Ганна СОЎСЬ

**Паводле архітэктаркі Аляксандры Баярынай, якая праводзіла маніторынг дашкольных установаў, у Мінску няма ніводнай групы ў садку, дзе дзеці маглі б гаварыць па-беларуску.**




Чаму так сталася і што рабіць, «Радыё Свабода» абмяркоўвае з трыма маці беларускамоўных дзяцей — архітэктаркай Аляксандрай Баярынай, стваральніцай часопісу «ALOVAK» Кацярынай Буто і грамадскай актывісткай Марынай Курышкай.

## Беларуская мова — 2 гадзіны на тыдзень

**Ганна Соўсь:** Аляксандра, распавядзіце, калі ласка, якая сітуацыя цяпер з беларускамоўнай дашкольнай адукацыяй у Мінску?

**Аляксандра Баярына:** Я б сказала, што яна проста катастрафічная, літаральна катастрафічная. Менск — горад на 2 мільёны жыхароў, і няма ніводнай групы, дзе дзеткі маглі б камунікаваць па-беларуску. Дзеткі трапляюць у садок праз агульную чаргу, і ў кожнай групе, як у рускамоўнай, так і беларускамоўнай, атрымліваецца 90% дзяцей рускамоўных. Тыя адно, два, тры дзіцяці, якія размаўляюць па-беларуску, трапляюць у гэтую групу, і першыя гады спрабуюць неяк цягнуцца да сваіх новых сяброў, з якімі павінныя цэлы дзень праводзіць. Ці ўвогуле бацькі забіраюць іх з садкоў і больш не водзяць туды.

Гэтая сітуацыя, па-першае, прыкрая. Я ўвесь час прыкладаю намаганні, каб прыцягнуць найбольш увагі да гэтай праблемы.

**Ганна Соўсь:** У Дзень роднай мовы Валянцін Жданко напісаў пра беларускамоўныя школы практычна тое, што і вы кажаце: нягледзячы на тое, што ён вучыўся сам у беларускамоўнай школе, у рэальнасці цалкам беларускамоўных школ у Беларусі не існуе. На перапынках гавораць па-руску, ды і частка прадметаў усё адно выкладаецца па-руску. Тое самае з садкамі — фармальна яны ёсць, але насамрэч іх няма. Ці так?

**Аляксандра Баярына:** Так. Фармальна яны названыя «групы з беларускай мовай навучання». Ёсць яшчэ групы з рускай мовай навучання. Мы правялі гэты маніторынг групай бацькоў, патэлефанавалі ў кожны садок, дзе ёсць такія групы з беларускай мовай навучання. І мы даведаліся цалкам пра ўсе дэталі гэтага навучання. І атрымліваецца, што як у беларускамоўнай групе, так і рускамоўнай, беларуская мова займае 2 гадзіны на тыдзень. То бок яны, гэтыя групы, нічым не адрозніваюцца.


Аляксандра Баярына

**Кацярына Буто:** Майму старэйшаму сыну Францішку 4,5 гады, ён пайшоў у садок упершыню ў мінулым годзе. Атрымліваецца, гэта наш другі год, і мы наведваем ужо другую беларускамоўную групу. Гэта быў наш свядомы выбар — і гадаваць дзяцей на беларускай мове, і аддаць у беларускамоўную групу. І вось у мінулым годзе група наша цалкам адпавядала апісанню Аляксандры. Яна была фармальна беларускамоўнай на паперы, на ёй размаўлялі толькі з нашымі дзецьмі, беларускамоўных было толькі трое, з якіх больш-менш хадзілі стала 2 чалавекі, ну і ўсё. Тлумачылі нам гэта тым, што іншыя дзеці з рускамоўных сем'яў не зразумеюць беларускую мову, таму толькі на занятках маўленне, а заняткі — дзве гадзіны на тыдзень.


**Кацярына Буто.** Фота Вадзіма Буто

Даходзіла да таго, што на бацькоўскім сходзе загадчыца і настаўніца проста апраўдваліся: ну вы ж разумееце, мы павінны ведаць беларускую мову, таму гэта група беларускамоўная, але вы не хвалюйцеся, гэта не значыць, што на ёй будуць размаўляць цэлы дзень з дзецьмі. Нас, канешне, гэта абурала. Пасля маніторынгу, які мы правялі, я сама тэлефанавала ў садкі і размаўляла з выкладчыцамі, і чула іх рэакцыю, як гэта насамрэч адбываецца.

Сёлета ў нас іншая сітуацыя, але толькі з прычыны выхавацелькі — яна размаўляе з дзеткамі на беларускай мове цэлы дзень, яна кажа, што яе ўсе разумеюць, так насамрэч і ёсць, я сама бачыла, калі прысутнічала. І вось, на жаль, яна ўжо пенсійнага ўзросту. Я разумею, што калі яна пойдзе на пенсію, гэтай беларускамоўнасці не будзе зусім. Таму што нават святы, якія не яна ладзіць, праводзяцца на рускай мове. На Новы Год не было ніводнага вершыка і песні на беларускай мове — і гэта ў беларускамоўнай групе.

Праблема — у выхавацелях, адміністрацыі садкоў, ну і чыноўніках. Кажуць жа, што рыба гніе з галавы, і наадварот: калі будуць захады зверху, спробы па захаванні роднай мовы, яны і на месцы пяройдуць.

## Беларускамоўная група — гэта як латарэя

**Марына Курышка:** Па-першае, хачу адзначыць, што мова нашай сям'і — беларуская, у нас не паўстала ніякага пытання, на якой мове будзе размаўляць наша дзіця. Ужо некалькі месяцаў запар я ў пошуках садку, але ўсё марна, бо статыстыка паказвае, што ў маім раёне беларускамоўных ясляў папросту няма. Пры размове з упраўленнем адукацыі майго раёну мне казалі, што для адной маёй дачкі групу ствараць не будуць — маўляў, няма кадраў. Заадно запрасілі мяне працаваць выхавацелькай. А на пытанне, якім чынам тады будуць створаныя ўсе неабходныя ўмовы для навучання і выхавання на беларускай мове, пачалася працяглая і неканструктыўная размова пра дзвюхмоўе, пра тое, чаму я супраць, што з маёй дачкой будуць працаваць па-руску.

Увогуле, наяўнасць беларускамоўных груп — гэта як латарэя: ніколі загадзя не ведаеш, дзе ў якім садку будзе ўдача, і з'явіцца гэтая група. Мая ж мэта — гэта дасягнуць рэалізацыі права маёй дачкі на выбар навучання

# Балонскі працэс загаварыў па-беларуску,

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Не так даўно ў Мінску прэзентавалі вынік сумеснай працы Грамадскага Балонскага камітэта і ўстановы «Мова Нанова» — корпус нарматыўных дакументаў Балонскага працэсу, перакладзеных з англійскай мовы на беларускую.**

Ініцыятыва — цалкам грамадская, на афіцыйным узроўні ніводзін пераклад на беларускую (ды і на рускую таксама) не быў зроблены. Відаць, беларускія чыноўнікі перакананыя, што ўсе беларусы вольна чытаюць па-англійску. Зрэшты, за час балонскіх рэформ у нашай краіне паўсталі праблемы не толькі з перакладамі. Сам працэс агулам ператвараўся ў суцэльную праблему: як сведчыць выніковая справаздача Кансультатыўнай групы №2 (AG2), якая маніторыць рэфармаванне вышэйшай адукацыі, абавязацельствы, падпісаныя Беларуссю, не выкананы.

## Толькі траціна беларускіх ВНУ мае беларускамоўныя версіі сайтаў

Зборнік перакладзеных тэкстаў — больш як 400 старонак. І гэта далёка не ўсе дакументы, звязаныя з Балонскім працэсам, але самыя падставовыя з іх.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў і старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім паведаміла, што, паводле рашэння Саўміну, з 2019 года ўсе дзяржустановы павінны мець сайты на беларускай мове. Але пакуль толькі траціна беларускіх ВНУ мае беларускамоўныя версіі сайтаў — сябра Грамадскага Балонскага камітэту Уладзімір Дунаеў правёў адпаведны маніторынг адмыслова напярэдадні прэзентацыі. І адзначыў тэндэнцыі: не маюць беларускамоўных сайтаў усе прыватныя ВНУ, універсітэты сістэмы МУС (апроч аднаго ў Магілёве) і Мінабароны. Лепш за ўсё з беларускай мовай у Брэсцкай вобласці — там толькі адзін універсітэт не мае сайта па-беларуску. А на Віцебшчыне сітуацыя адваротная: з усіх ВНУ сайт на беларускай мове мае толькі адна.

— Мы прапануем даслаць у кожны ўніверсітэт гэты корпус балонскіх дакументаў на беларускай мове, а таксама падрыхтаваць ліст да рэктараў універсітэтаў з тым, каб яны прынялі іх ва ўжытак, — сказаў Уладзімір Дунаеў.

Паводле яго словаў, толькі адна беларуская ВНУ дае спасылку на пераклад Дарожнай карты на сайце ГБК, пры тым, што ён не з'яўляецца афіцыйным. Як і астатнія балонскія дакументы, перакладзеныя на беларускую мову дзякуючы курсам «Мова Нанова», што сталі пляцоўкай для сэрвісу бясплатных перакладаў. Над беларусізацыяй дакументаў працавалі выкладчыца Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэту Аксана Семянькевіч і перакладчыца Яўгенія Кіслая.

— Я вельмі заклапочаная і станам беларускай мовы, і развіццём Балонскага працэсу, і тымі правамі і свабодамі, прадугледжанымі рэформай адукацыі, але якіх у нас пакуль няма, таму ўзялася за пераклады, — падзялілася яна з «Новым Часам». — Апошняе, што я перакладала, — выніковая справаздача Кансультатыўнай групы №2. У ёй мяне вельмі ўразіла тое, што адзін з прадстаўнікоў Беларусі на пасяджэнні групы сказаў, што мы выконваем ледзь не 80% абавязацельстваў Дарожнай карты, і з гэтым не пагадзілася амаль уся аўдыторыя.

## Адукацыя — прадмет клопату нацыянальнай эліты краіны

Невыкананне Дарожнай карты — умоў, на якіх нашу краіну далучылі да Балонскага працэсу, — тэма балючая. Ад пачатку мала хто верыў, што за тры гады можна выканаць усе патра-

# беларускамоўных садкоў

і выхавання на роднай мове. Я не хачу акупаваць два вядомыя беларускамоўныя садкі, я хачу, каб былі створаныя ўсе неабходныя ўмовы для таго, каб мая дачка наведвала садок у маім раёне. І я ўсё раблю для гэтага. А рускамоўныя дзеці маюць гэтае права па змаўчанні, і не даводзіцца іх бацькам змагацца за гэта.

**Ганна Соўсь:** Якія высновы вы зрабілі з кантактаў з чыноўнікамі Мінадукацыі? Ці вас пачулі, ці ёсць адваротная сувязь, ці можна на нешта спадзявацца, пра нешта дамовіцца?

**Аляксандра Баярына:** Перамовы мы вядзем з восені, і ўсе нашы спробы з таго боку сустракалі рэальна адмоўную рэакцыю. Гэта былі такія адпіскі, даволі грубыя. Калі мы задаём, напрыклад, пяць канкрэтных пытанняў, то атрымліваем некалькі кароткіх абзацаў кшталту: вось правілы прыёму, ля-ля-ля — да пабачэння. Добра, што не па-руску.

Найстаноўчы крок — гэта наш візіт у Міністэрства адукацыі да намесніцы міністра Раісы Сідарэнкі. Мы прыйшлі групай бацькоў і яшчэ раз паставілі свае пытанні. Мы паказалі, што мы не адступім, што мы хочам, каб Міністэрства адукацыі пабачыла нас і зрабіла тое, што яны павінны зрабіць. Гэта значыць, зрабіць нам умовы, каб мы аддалі сваіх дзяцей не ў фіктыўныя, а ў самыя сапраўдныя групы з беларускай мовай навучання. І нам падалося, што нас пачулі. Нам абяцалі на працягу месяца паказаць гэтыя станоўчыя крокі, нам сказалі, што нам адкрыюць гэтыя ўзроставыя групы ў кожным раёне, што пойдуць далей, дададуць туды гэту графу «мова навучання» — беларуская ці руская ў форму пастановы на ўлік дзяцей і ў паслузе «адно акно».

Першы крок, які адбываецца на шляху бацькоў да дзіцячага садку, — гэта вось гэтая паслуга «адно акно» ў раённай адміністрацыі, дзе трэба запісаць дзіця. Дык вось яны абяцалі нам, што гэтая графа «мова навучання» будзе дададзеная туды — і праз год яна будзе афіцыйна зафіксаваная заканадаўча. І мы чакаем. Мы запісаліся на прыём наступнай групай бацькоў і пойдзем, каб ужо даведацца аб станоўчых выніках гэтых дзеянняў. Мы не збіраемся чакаць, як гэта будзе, мы будзем удзельнічаць у гэтым працэсе і будзем дабівацца гэтых станоўчых вынікаў.



**Марына Курышка.** Фота Ганны Чайка

### Стварэннем прыватнага садка праблему не вырашыць

**Ганна Соўсь:** Марына, вы казалі, што хочаце дамагчыся, каб і ў вашым раёне побач з вашым домам была беларускамоўная група, а не некалькі садкоў, куды возяць дзяцей з усяго гораду. Можа, не варта спадзявацца на дзяржаву, а хутчэй на самаарганізацыю беларускамоўных бацькоў, стварэнне прыватных беларускамоўных садкоў? Наколькі гэта рэальна? І ці слушна?

**Марына Курышка:** Вы ж бачыце, што і так ужо даведзена да такой кропкі, што нічога не застаецца нам, як шукаць разам выйсця з гэтай сітуацыі. На сённяшні дзень беларускамоўныя бацькі знаходзяць адзін аднаго, асяроддзе для нашых дзяцей, шукаем разам беларускамоўныя кнігі, збіраем грошы на агучку мультыкаў. Святкуем святы, ствараем беларускамоўныя курсы. Дзяржава настолькі абыякава ставіцца да нас, што мы вымушаныя гэта рабіць сваімі сіламі.

Узгадаем рускамоўных бацькоў — усё знаходзіцца ў крокавай дасягальнасці: садкі, школы, курсы, кнігі, гульні, цацкі, мульцікі. Хіба гэта не дыскрымінацыя майго дзіцяці? Дзяржаве зручна, што мы выбітыя з гэтай каляіны, і яны здымаюць з сябе велізарны пласт працы. Гэта ўжо, я лічу, занадта, калі на нашы плечы яшчэ ляжа стварэнне прыватнага садка. Тым больш, стварэнне прыватнага садка — гэта як з'ехаць з нашай краіны: мы галоўную праблему гэтым не вырашым.

**Ганна Соўсь:** А як вы тлумачыце сваім дзеткам, чаму вакол іх мала ці зусім няма дзетак ці дарослых, якія гавораць па-беларуску? Ці гэта для дзетак пэўны выклік — быць адрознымі, не такімі, як усе? Якія псіхалагічныя наступствы, як станоўчыя, так і адмоўныя гэта мае?

**Кацярына Буто:** Так, пытанне складанае, і я сама рыхтуюся толькі да яго, таму што Франак у такім узросце яшчэ, што ён гэта асабліва не ўсведамляе. Ён адчувае розніцу паміж мовамі, ён ведае, што ёсць руская, ёсць беларуская мовы. Але такіх пытанняў ён асабліва не задае. Для яго гэта не з'яўляецца пакуль праблемай. І мы таму яго і настройваем, стараемся папярэдзіць гэтую магчымасць праблемы, і мы яго настройваем не на «не быць як усе», размаўляць на беларускай мове, а на думку, што кожны разумны адукаваны чалавек мусіць ведаць родную мову. Бывалі такія смешныя выпадкі, калі, паслухаўшы нас, Францішак нешта ў сваёй галоўцы сабе разумее і пытаецца, бывае, у сваёй бабулі рускамоўнай: «Чаму ты не размаўляеш на беларускай мове, хіба ты не вучыла яе ў дзяцінстве?» Бабуля стараецца пасля такіх размоў гаварыць па-беларуску з унукам.

**Ганна Соўсь:** Аляксандра, і да вас пытанне наконт балансу паміж самаарганізацыяй беларускамоўных бацькоў і патрабаваннямі да дзяржавы — у якой ступені павінна быць і тое, і гэта?

**Аляксандра Баярына:** Я лічу, што трэба дамагчыся, каб кожны чалавек, калі ён мае права на адукацыю, мог атрымаць гэту адукацыю. Я сёння хачу атрымаць адукацыю на беларускай мове, заўтра на рускай, і гэта павінна быць выканана — для кожнага чалавека ў краіне. Колькі б іх ні было: адзін, два, тры, чатыры ці пяць. Вось гэтыя ўсе аргументы наконт таго, што большасць мае права, большасць не хоча, у вас няма столькі жадаючых, давайце пагля дзім, а ці набярыце вы дзяцей на групу — гэта абсалютна маніпулятыўныя аргументы, якія толькі сведчаць пра тое, што адбываецца дыскрымінацыя. Кожны чалавек мае права на адукацыю, і кожны чалавек павінен гэта права атрымаць. І хачу падкрэсліць, што мы ўжо заплацілі за гэта. Мы заплацілі за сваю адукацыю, за садкі, за школы, за ўсе сацыяльныя паслугі — за ўсё-ўсё гэта заплачана нашымі падаткамі. І мы хочам гэта атрымаць.

### Нам не трэба ісці за большасцю рускамоўных

**Ганна Соўсь:** Ці ўсведамляеце вы, што гэта толькі самы пачатак доўгага шляху? Будзем спадзявацца, што да таго моманту, пакуль вашы дзеткі пойдуць вучыцца ў ВНУ, з'явяцца ВНУ з навучаннем па-беларуску. Але спачатку гэта змаганне за садкі, потым — за беларускамоўныя класы ў малодшай, сярэдняй, старэйшай школе, а далей змаганне за вышэйшую адукацыю. Гэта такі доўгі шлях. Ці вы гатовыя да яго?

**Марына Курышка:** Вядома, я гатовая да гэтага. Я ўжо думала шмат разоў пра тое, што давядзецца нам змагацца за садкі, потым за школу, а потым ужо за ўніверсітэт. Таму так, я гатовая да гэтага. Гэта наша мова, і ўсё ж такі нам не трэба сядзець на месцы і ісці за гэтай большасцю рускамоўных. Трэба дамагацца і ствараць усе ўмовы, каб маё дзіця навучалася на беларускай мове.

**Кацярына Буто:** Я хачу падкрэсліць, мы не першыя бацькі, якія змагаюцца за беларускую мову навучання сваіх дзяцей. Так склалася, што, адзін раз атрымаўшы магчымасць вучыцца ў садку, бацькі задаволіліся гэтым і не ішлі далей. Яны на грамадскае абмеркаванне гэту праблему не падымалі. Мы ж хочам менавіта не толькі для сваіх дзяцей атрымаць, таму што ў мяне, напрыклад, зараз сітуацыя больш-менш здавальняючая, але мы хочам, каб і для нашых, і для наступных пакаленняў дзетак была магчымасць на беларускай мове навучацца.

Што тычыцца рычагоў уплыву, калі мы не будзем гуртавацца, на жаль, атрымліваецца нічога не будзе. Таму, па-першае, Саша правільна сказала, што і лідары меркаванняў павінны не быць убаку, яны павінны выказвацца, нават калі ў іх зараз няма дзяцей. Гэта катастрафічная сітуацыя, бо мова пачынаецца з садкоў, школ, і калі мы гэты шанец згубім, то і мова знікне. А якія канкрэтна крокі трэба зрабіць і чаго мы дамагаемся — гэта змяніць пастанову Міністэрства адукацыі № 234, якая тармозіць рэалізацыю права на беларускамоўную дашкольную адукацыю, увесці графу выбару моваў пры пастаноўцы на ўлік, ну і зрабіць, каб гэтыя групы былі не фармальныя, а рэальныя беларускамоўныя.

**Аляксандра Баярына:** Я мяркую, што калі ёсць запыт грамадства, а мы яго афармілі, мы паказалі, што запыт існуе, мы ўсё гэта можам паказаць на дакументах, не на словах, Міністэрства адукацыі павінна зрабіць гэты крок насустрач і ўсяго толькі памяняць адну паперу — пастанову № 234: проста прыняць яе ў новым выглядзе, дадаць адзін слупок, які дапаможа працаваць гэтай сістэме крыху па-іншаму. І калі сістэме давядзецца, напрыклад, зрабіць яшчэ нейкія арганізацыйныя крокі, то я бачу ў гэтым толькі плюс.

Трэба працягваць дыскусіі з кіраўніцтвам, трэба ўставаць і ісці да адміністрацыі.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# але ці доўга мы ў ім застанёмся?

баванні, але былі спадзяванні рэалізаваць хаця б частку з іх. Дарожная карта патрабуе пераходу да трохпрыступкавай архітэктуры адукацыі (бакалаўр — магістр — кандыдат навук), стварэння нацыянальнай сістэмы кваліфікацый, якая рэгулюе суадносіны адукацыі з рынкам працы (Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая яе не мае і карыстаецца яшчэ савецкімі тарыфна-кваліфікацыйнымі даведнікамі). Апроч таго неабходна забеспячэнне якасці, прызнанне дыпломаў, бясплатная выдача дадатку да дыплома (Diploma Supplement), мабільнасць педагогаў і студэнтаў, захаванне неперарыўнай адукацыі і яе сацыяльнага вымярэння (перадусім — адмовы ад размеркавання і фінансавай падтрымкі студэнтаў прыватных ВНУ), забеспячэнне акадэмічнай свабоды і ўніверсітэцкай аўтаноміі.

Калі па некаторых з пералічаных пунктаў папросту няма прагрэсу, то адносна размеркавання выпускнікоў сітуацыя нават пагоршылася: на пачатку года віцэ-прэм'ер Васіль Жарко заявіў, што размеркаванне павінна быць стопрацэнтным. Яшчэ да нядаўняга часу былі спадзяванні на прыняцце новай рэдакцыі Кодэкса аб адукацыі, якая б дазволіла рэалізаваць два пункты з гэтага пераліку: дадатак да дыплома і пераход да трохпрыступкавай сістэмы. Аднак дакумент не могуць прыняць з мінулага лета, і перспектывы на гэты конт цьмяныя.

— Балонскі працэс — адзіны паспяховы праект рэалізацыі ідэі «Вялікай Еўропы». Доўгі час стаўленне да яго было досыць трапяткім. Сёння гэты праект перажывае крызіс, і Беларусь забівае свой цвік у яго труну, падрываючы давер і дыскрэдытуючы Балонскую сістэму. Каб гэта шкодзіла толькі чыноўнікам — было б паўбяды. Але пакутуе ўсё грамадства. І гэта, безумоўна, — падрыў міжнароднага іміджу Беларусі, — лічыць Уладзімір Дунаеў.

Увогуле, імплементацыя Дарожнай карты — абавязак усёй краіны, а не толькі Мінадукацыі. Бо немагчыма чакаць ад яго вырашэння пытання нацыянальнай рамкі кваліфікацый — гэта адказнасць Міністэрства працы. Мінадукацыі не можа адмяніць артыкул Крымінальнага кодэкса 193.1, які прадугледжвае крымінальную адказнасць за дзеянне ад імя незарэгістраванай арганізацыі, як і рэфармаваць заканадаўства па студэнцкай мабільнасці. Гэтую задачу павінны вырашаць розныя ведамствы ў кааперацыі, якой няма.

— Міжнародныя эксперты зрабілі выснову, што беларускі бок сам не разумее, чаго хоча, і не ўсведамляе, што такое еўрапейскія стандарты. Спробы дапамагчы Беларусі зразумець, што трэба рабіць, сустракаюць адмаўленне з беларускага боку, — разводзіць рукамі прафесар Дунаеў.

Тым не менш Кансультатыўная група №2 склала рэкамендацыі для Беларусі адносна далейшай дзейнасці па Дарожнай карце. Яны заключаюцца ў спецыяльнай працэдуры падтрымкі для Беларусі, каб да 2020 года патрабаванні ўсё ж былі выкананы. Бо, нягледзячы на амаль нулявы эфект на афіцыйным узроўні, грамадзянская супольнасць, універсітэцкія колы, і нават Савет рэктараў, зацікаўленыя ў выкананні Дарожнай карты.

А незалежны эксперт у галіне вышэйшай адукацыі, кандыдат педагагічных навук Святлана Мацкевіч мяркуе, што рашэнні наконт далейшага лёсу Беларусі ў Балонскім працэсе пачнуць прымацца без апеляцый да Дарожнай карты, а будуць грунтавацца на больш шырокіх палітычных падставах.

— Адукацыя ў агульнапалітычных беларуска-еўрапейскіх адносінах будзе разглядацца як адзін з інструментаў гэтай камунікацыі, бо Балонскі працэс пэўны час быў адзінай пляцоўкай для двухбаковых перамоў. Мне здаецца, што, хутчэй за ўсё, Еўропа здыме ўмоўнасць уступлення ў Балонскі працэс, і гэта будзе зона ўзаемных саступак. Таму адукацыя застанецца прадметам клопату ўнутранай нацыянальнай эліты краіны, — падкрэсліла Святлана Мацкевіч.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Эсэ пра «лідара нацыі»

Міністэрства адукацыі і навукі Таджыкістана зацвердзіла пералік тэмаў, на якія абітурыенты ВНУ краіны будуць пісаць эсэ. Будучыя студэнты, у прыватнасці, могуць напісаць эсэ на тэму «Лідар нацыі — абаронца нацыі» ці «Мы — паслядоўнікі лідара нацыі». Наяўнасць такіх тэмаў — не дзіўная, асабліва калі ўзгадаць, што прапанову аб напісанні эсэ на дзяржаўнай мове ў свой час агучыў сам лідар нацыі, кіраўнік Таджыкістана Эмамалі Рахмон. Цікава, што гэтую ідэю асцярожна крытыкуюць нават таджыкі. Відавочна, што такі твор будзе складацца з набору правільных лозунгаў, якія не дазволяць ацаніць узровень ведаў абітурыента. Дарэчы, абітурыенты могуць абраць і іншую з каля 60 зацверджаных калегіяй міністэрства тэмаў, сярод якіх нямала арыгінальных. Напрыклад: «Я — арыец, і ганаруся гэтым», «Нацыянальная адзенне — сімвал нацыянальнай культуры», «Упарадкаванне звычаяў — карысць для жыцця» і гэтак далей.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. У гатэль па партбілетах

Усе, хто быў у Берліне, напэўна бачыў на ўваходах у розныя ўстановы шыльды: «Wir müssen draußen bleiben» («Мы павінны заставацца звонку»). Шыльды тычацца сабак. Аднак цяпер тую забарону распаўсюдзілі на людзей. Цэнтральныя гатэлі нямецкай сталіцы вырашылі не абслугоўваць сябраў правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD). Ужо ёсць першая ахвяра незвычайнай кампаніі — дэпутат парламенту Вільгельм фон Готберг, якога абвясцілі персонай нон-грата ў адным з цэнтральных гатэляў. Фон Готберг ужо заявіў, што яго пераследуюць паводле палітычных прычынаў, і паабяцаў узняць пытанне на пасяджэнні Бундэстага. Прэса, між тым, лічыць, што выпадак з дэпутатам адметны. Фон Готберг — адыёзная фігура нават сярод сябраў «Альтэрнатывы для Германіі», раней ён публічна называў Халакост «інструментам для крыміналізацыі немцаў».

**Паводле нямецкай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Усе на барацьбу з клапамі!

Грузінская апазіцыя звярнулася да ўладаў з прапановай абвясціць надзвычайнае становішча і ўсеагульную мабілізацыю на барацьбу з мармуровымі клапамі (Halyomorpha halys). Гэты шкоднік у мінулым годзе знішчыў у заходняй частцы краіны большую частку ўраджаю фундуку і кукурузы, што паставіла многіх сялян на мяжу галечы. Надзеі мясцовага насельніцтва на зіму не спраўдзілася — клоп выжыў, і з надыходам вясны падае такія прыкметы жыцця, што леташнія страты могуць падацца фермерам кветачкамі. Апазіцыя заклікае падключыць да барацьбы з клапамі нават войска. Улада, у сваю чаргу, сцвярджае, што пытанне палітызаванае. Міністр сельскай гаспадаркі і аховы навакольнага асяроддзя Грузіі заклікаў насельніцтва не панікаваць. Трэба дадаць, што ў асяроддзі апазіцыі папулярная ідэя выставіць пазоў да Расіі за клапоў. Ёсць версія, што клоп трапіў у Грузію з Сочы, дзе падчас будаўніцтва алімпійскіх аб’ектаў была знішчана частка лесу, які пачалі аднаўляць пасля Алімпіяды–2014. Расліны для гэтага былі завезеныя з-за мяжы, адкуль у Расію трапіў і нязваны небяспечны госць, які хутка пашырыў арэал пражывання на ўвесь Каўказ.



**Паводле грузінскай прэсы**

### ДАНІЯ. Права на прытулак скасуюць?

Дацкія сацыял-дэмакраты — вядучая апазіцыйная партыя — пераплюнулі сваіх правых апанентаў, якія праводзяць жорсткі курс супраць мігрантаў. Эсдэкі прапануюць увогуле прыбраць з дацкага заканадаўства параграф пра права на прытулак для іншаземцаў. Паводле слоў Метэ Фрэдэрыксен, мець права прасіць прытулак у Даніі павінны выключна грамадзяне краін ЕС. Праўда, агучаны ёй план у дэталях выглядае ўтапічным. Паводле Фрэдэрыксен, мігантаў, якія дабраліся да Даніі, трэба затрымліваць і дэпартаваць на радзіму. Аднак як тэхнічна будзе арганізаваная тая дэпартацыя, незразумела. Асабліва гэта тычыцца мігрантаў з Афрыкі, дзе пануе хаос. Сама лідарка сацыял-дэмакратаў разлічвае на ААН, якая ў перспектыве, маўляў, пабудуе на Чорным кантыненце спецыяльныя лагеры. Хаця прапановы эсдэкаў падобныя на фантазіі, праваабаронцы вельмі заклапочаныя. Сама ідэя скасаваць права на прытулак разглядаецца імі як замах на фундамент еўрапейскай дэмакратыі.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Як далёка зойдзе #MeToo?

Алег НОВІКАЎ

**Ці трэба Дзень барацьбы за правы жанчын перанесці з 8 сакавіка на 15 кастрычніка, калі нарадзіўся рух «#MeToo»?**



Фота www.politico.eu

«Калі б усе жанчыны, якія зазналі сексуальныя дамаганні або напад, таксама напісалі “Me Too” («Я таксама») у сваім статусе, мы маглі б даць людзям зразумець маштабы гэтай праблемы», — такі пост апублікавала ў сваім акаўнце 15 кастрычніка 2017 года актрыса Аліса Мілана, якая жадае прыцягнуць увагу да скандальнай справы прадзюсара Харві Вайнштэйна.

Насамрэч, ідэя хэштэгу «#MeToo» належыць грамадскай актывістцы Таране Берк. Упершыню яна выкарыстала «#MeToo» ў сацыяльнай сетцы MySpace у 2006 годзе ў межах правядзення кампаніі «пашырэння магчымасцяў праз спагаду» сярод цемнаскурых жанчын, якія зведалі сексуальны гвалт. Берк нават стварыла дакументальны фільм «Me Too», у якім, у прыватнасці, распавяла, як аднойчы яна адказала 13-гадовай дзяўчынцы: «Я таксама». І такім чынам Берк прызнала, што і яна падвяргалася сексуальнаму гвалту. Тарана Берк шкадавала, што не знайшла іншых слоў і проста адказала той дзяўчыне: «Я таксама».

Але сапраўдны эфект «#MeToo» набыў менавіта пасля публікацыі Міланы. Толькі на працягу першых 24 гадзін у Facebook больш за 4,7 мільёна чалавек у 12 мільёнах паведамленняў выкарыстоўвалі хэштэг «#MeToo». Facebook паведамляў, што ў 45% карыстальнікаў у Злучаных Штатах хаця б хто-небудзь з сяброў апублікаваў гэтае выслоўе.

Флэшмоб у сеціве выйшаў далёка за межы справы Вайнштэйна. Многія адважыліся зрабіць публічнымі гісторыі пра сексуальныя дамаганні на працоўных месцах, што прывяло да расследаванняў у дачыненні да мноства мужчын. Пад падазрэнне трапілі нават прэзідэнт ЗША і зоркі Галівуду. Заклік «#MeToo» знайшоў водгук і за мяжой. Напрыклад, не чуваны дасюль скандал у расійскай Думе, дзе журналісткі абвінавацілі ў дамаганнях дэпутата Леаніда Слуцкага. Амерыканскія журналісты нават зрабілі шэраг заяў пра надыход нейкага пераломнага моманту ў грамадскім стаўленні да сексуальных учынкаў.

Між тым, актывісткі «#MeToo» ўсё часцей навязваюць свой парадак дня ў розных сегментах жыцця. Напрыклад, апошні Дзень святога Валянціна многія на Захадзе святкавалі больш сціпла, паколькі «#MeToo» напярэдадні заклікала «дэрамантызаваць» свята 14 лютага. У Вялікабрытаніі феміністкі дамагаюцца правядзення сваіх лекцый у школе, каб навучыць хлопчыкаў, як паводзіць сябе на спатканнях.

Выявіў сябе рух і ў заканадаўчай сферы. З яго падачы ў штаце Каліфорнія разглядаюць законапраект аб забароне тайных дамоваў у выпадку сексуальных дамаганняў. Далей за ўсіх пайшлі ў Швецыі, дзе 21 снежня парламент ухваліў закон «Аб згодзе на секс», згодна з якім партнёру трэба атрымаць згоду іншага партнёра перад актам. Згоду можна атрымаць на словах або ў пісьмовай форме. Праўда, трэба адзначыць, што экстравагантная рэформа была шмат у чым рэакцыяй на рэзкі ўсплёск колькасці згвалтаванняў у краіне. Пасля таго, як іх ахвярай стала кабета-інвалід, публіка запатрабавала жорсткіх крокаў. А вядомая акцёрка Анжаліна Джалі, якая таксама засвяцілася ў «#MeToo», у мінулым лістападзе заклікала ААН уводзіць войскі міратворцаў у зоны, дзе жанчыны сістэмна пакутуюць ад сексуальных злачынстваў.

Зрэшты, ёсць і больш канструктыўныя прапановы. Дзякуючы «#MeToo» ў ЗША нарэшце можа быць прынятая Папраўка аб роўных правах (ERA), якая забараняе адмову ад роўных правоў на аснове полу (такім жа чынам у ЗША ўжо забараняюць дыскрымінацыю па прыкмеце расы, рэлігіі і нацыянальнага паходжання). Кангрэс прыняў папраўку яшчэ ў 1972 годзе, але яна не была ратыфікаваная патрэбнай колькасцю штатаў.

У выніку агрэсіўны ціск «#MeToo» на ўсе інстытуты спарадзіў спекуляцыі пра магчымую змену заходняга цывілізацыйнага кода. З такой ідэяй, напрыклад, носяцца рускія патрыёты, якія лічаць, што «#MeToo» дапаможа знішчыць Захад. «У выпадку захавання сучасных тэндэнцый пытанне знікнення заходняй цывілізацыі, якая будзе хварэць на матрыярхат, — гэта пытанне часу», — піша сайт «Царьград».

Але хапае ў «#MeToo» крытыкаў і на Захадзе. На думку апошніх, феміністкі разглядаюць мужчынскую прыроду як загадзя варожую, ігнаруюць сексуальную дынаміку адносін, іх гульнявы характар. Праводзяць паралелі паміж маніфестамі «#MeToo» і раманам-антыўтопіяй «1984» Джорджа Оруэла. Апісаная на старонках рамана таталітарная дыктатура дыктуе мужчынам і жанчынам, як трэба будаваць паміж сабой адносіны.

Трэба прызнаць, што «#MeToo» сапраўды часам спрабуе прапанаваць «формулу кахання». Вось як апісвае іх актывістка Жаклін Фрыдман: «Інтым — гэта творчае супрацоўніцтва паміж двума людзьмі. Паміж людзьмі, якія хочуць гуляць, мець зносіны, даследаваць свае ўзаемныя фантазіі, атрымліваць асалоду ад валодання адзін адным. Вам проста трэба пагаварыць пра гэта з партнёрам у першую чаргу».

У лагер апанентаў «#MeToo» ўваходзяць таксама некаторыя юрысты, якія лічаць, што гучныя абвінавачванні ў дамаганнях часцяком ігнаруюць наяўнасць у абвінавачаных права на прэзумпцыю невінаватасці. З пункту гледжання шэрагу гісторыкаў, «#MeToo» вульгарызуе гісторыю, розным этапам якой характэрныя свае мадэлі сексуальнай культуры. Без гэтага нельга зразумець матывы паводзін людзей і палітычных дзеячаў у мінулым. Напрыклад, у 1997-м феміністкі і лібералы падтрымалі Клінтанаў у афёры з Монікай Левінскі. Ліберальная Амерыка баялася імпічменту Клінтана і прыходу ў Белы Дом кансерватыўнага палітыка. Што тычыцца пачуццяў няшчаснай Монікі, дык яны разглядаліся ў другую чаргу.

Цікава, што незадаволеныя «#MeToo» і шматлікія амерыканскія жанчыны. Гэта прадстаўніцы непрэстыжных прафесій. Па іх словах, «#MeToo» — гэта цацка багатай белай эліты. Між тым, менавіта афіцыянткі ў рэстарацыях fast food або прыбіральшчыцы ў гатэлях — галоўныя ахвяры дамаганняў. Гэта пацвярджае статыстыка, паводле якой жанчыны з нізкім заробкам у ЗША ў сем разоў часцей рызыкуюць натрапіць на гвалтаўніка, чым жанчына з вышэйшай адукацыяй. Прычым, бедныя амерыканкі звычайна не бягуць у прэсу з-за боязі страціць працу.

Адсюль вынікае правакацыйны тэзіс пра тое, што «#MeToo» не нясе ніякай сур’ёзнай пагрозы для сістэмы і з’яўляецца часовым феноменам. Не будзем таксама забывацца і на версію, паводле якой кампанія «#MeToo» прыдуманы выключна для таго, каб вынесці імпічмент Дональду Трампу. Цяперашняга гаспадара Белага Дому неаднаразова абвінавачвалі ў неэтычных паводзінах у дачыненні да прадстаўніц слабага полу. Калі нават гэта і так, то пра заняпад руху «#Me Too» казаць рана. Шоў, якое арганізавалі прыхільнікі руху падчас апошняга «Оскара», даводзіць, што пакуль гэтая ідэя толькі набірае моц.

# Грып над усімі грыпамі

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму ў Еўропе здарылася самая буйная ў найноўшай гісторыі пандэмія грыпу, якую называлі «іспанкай». Аднак толькі сёння становіцца зразумела, які вялізарны ўплыў той вірус меў на гісторыю чалавецтва.**



Малюнак www.theponderroar.com

Ад 50 да 100 мільёнаў ахвяр (каля 2,5 працэнта ўсяго тагачаснага чалавецтва) плюс 500 мільёнаў хворых — такія лічбы «іспанкі», якая віравала ў 1918–1920-х гадах. Назва «іспанка», як вядома, з'явілася выпадкова. Ваенная цэнзура ў дзяржавах, якія ваявалі, не дапускала паведамленняў пра выбух хваробы, і першыя звесткі пра яе з'явіліся ў друку ўвесну 1918 года ў нейтральнай Іспаніі.

Тым дзіўней, што пра «іспанку» пасля заканчэння эпідэміі вельмі хутка забылі. Магчыма, гэтаму спрыяла тое, што на фоне Першай сусветнай вайны, якая толькі-толькі скончылася, нават смяротная хвароба ўспрымалася як не такая і жудасная. Дастаткова сказаць, што толькі ў 1989 годзе навукоўцы вырашылі знайсці вірус, які выклікаў тую катастрофу.

Прыкладна ў той жа час гісторыкі задумаліся, які ўплыў меў грып на гісторыю чалавецтва. Дасюль комплексных даследаванняў, праўда, няма. Аднак даследаванні ў пэўных сектарах дазваляюць казаць, што наступствы пандэміі для лёсу планеты былі каласальныя.

Пачаць можна з таго, як грып паўплываў на развязку Першай сусветнай вайны. Як лічаць гісторыкі, хвароба дапамагла войскам Антанты, якія пасля Брэсцкага міру апынуліся ў складанай сітуацыі. Дзякуючы міру з бальшавікамі ў сакавіку 1918-га ў немцаў вызваліліся пару дзясяткаў дывізій. У Берліне лічылі, што дзякуючы ім можна будзе прарваць Заходні фронт і навязаць краінам Антанты свае ўмовы міру.

Тыя дывізіі аператыўна перакінулі на Заходні фронт. Аднак чаканага прарыву не адбылося. Калі верыць гісторыкам, Антанце трэба быць удзячнай за гэта менавіта грыпу, першая хваля якога пачалася ў Еўропе менавіта ў той час. З невядомых прычынаў больш за ўсё вірус атакаваў Германію і Аўстрыю. У выніку хваробы, якая касіла жаўнераў, рашучай перавагі на фронце немцам дасягнуць не ўдалося. Спробы наступу ўлетку 1918-га захлынуліся. А ўвосень унутраны эканамічны крызіс выліўся ў рэвалюцыю — і Германія была вымушаная капітуляваць.

Ускоснай ахвярай «іспанкі», напэўна, аказаўся і праект Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), які існаваў на акупаванай немцамі тэрыторыі. Апошнія, як вядома, асцярожна ставіліся да яго дзейнасці, хаця цалкам не забаранялі. Такі расклад даваў падставы спадзявацца, што позна ці рана немцы пойдуць насустрач і прызнаюць легітымнасць БНР. Аднак рэвалюцыя ў Германіі — у тым ліку следства той жа «іспанкі» — паставіла крыж на такіх марах.

Згадаем і пра эканамічны эфект грыпу. Паводле разлікаў эканамістаў, праз хваробу працаўнікоў вытворчасць у сусветным маштабе скарацілася на 4,8 працэнта. Агульныя страты склалі, паводле цяперашняга валютнага курсу, больш за тры трыльёны долараў. Статыстка не дзіўная, калі ўзгадаць, што праз страх перад хваробай зачыняліся не толькі прыватныя фірмы і кампаніі. На працу не выходзілі нават супрацоўнікі асноўных публічных службаў — паштальёны, настаўнікі або прыбіральшчыкі.

**Негатыўныя аспекты «іспанкі», магчыма, кампенсуюцца яе роляй у стварэнні публічнай сістэмы аховы здароўя. Менавіта тады пачаў фармавацца правобраз медычнай сістэмы**

Стабільна працавала хіба што пахавальная служба. Праўда, яе супрацоўнікам была дадзена жорсткая інструкцыя: пахаванні павінны былі працягвацца не больш за 15 хвілінаў, каб паменшыць магчымасць кантактаў паміж людзьмі. Такіх незвычайных цыркуляраў у той час было шмат. Напрыклад, у некаторых амерыканскіх гарадах забаранілі пляваць, паколькі сліна магла ўтрымліваць мікробы.

Вялікія змены пандэмія выклікала і ў сацыяльнай сферы. У тым ліку таму, што «іспанка» была незвычайным грыпам. Яна забівала 20–30-гадовых мужчынаў. Як следства, паўстаў вялікі дэфіцыт кадраў, які вырашалі за кошт рэкрутынгу жанчын. На гэтай хвалі яны ўсё часцей пачалі займаць кіруючыя пасады. У Злучаных Штатах, дзе ад вірусу памерлі каля 2 мільёнаў чалавек, выкліканая «іспанкай» дынаміка фемінізацыі дапамагла правесці ў 1920 годзе 19-ю папраўку да Канстытуцыі, якая надавала жанчынам правa ўдзельнічаць у выбарах.

Праўда, амерыканкам, якія перахварэлі на «іспанку», яўна было не да электаральных навінаў. Паводле часопісу «Time», дзеці, якія нарадзіліся пасля заканчэння эпідэміі, больш пакутавалі на праблемы з сэрцам, былі фізічна слабейшымі, часцей мелі разумовыя адхіленні. Падобныя з'явы фіксавалі і ў іншых краінах, дзе панавала хвароба.

Аднак самую вялікую бомбу з гадзіннікавым механізмам «іспанка» пакінула ў калектыўнай свядомасці. Псіхолагі лічаць, што эпідэмія, якую ў народзе непарыўна разглядалі разам з Першай сусветнай вайной, сфармавала на Захадзе комплекс — любымі сродкамі пазбягаць новай вайны. Праз пару дзесяцігоддзяў гэтай псіхалагічнай траўмай скарыстаўся Гітлер. Папулярная сярод выбаршчыкаў тэза: «Абы не было вайны» прымушала заходніх палітыкаў заплюшчваць вочы на агрэсіўныя выбрыкі нацыстаў. У выніку такая тактыка, як вядома, скончылася Другой сусветнай вайной.

Гэты негатыўны аспект «іспанкі», магчыма, кампенсуецца яе роляй у стварэнні публічнай сістэмы аховы здароўя. Менавіта падчас эпідэміі пачалі фармавацца правобразы таго, што зараз называецца «медычнай сістэмай». Шмат у чым дзякуючы грыпу паўстала вытворчасць медыкаментаў, разлічаных на людзей з невялікімі заробкамі. Эпідэмія дапамагла медыкам канчаткова разбурыць забабоны супраць вакцынацыі, якая цяпер становіцца абавязковай. Паўстаюць першыя арганізатары маніторынгу эпідэмічных хваробаў.

Як бачым, не ўсё так проста з той «іспанкай». Адназначна толькі адно — лепш не хварэць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Здэнек Андрачэк



Функцыянер Камуністычнай партыі Чэхіі і Маравіі (KSČM) стаў першым камуністам, які пасля краху чэшскага сацыялізму ў 1989 годзе заняў высокую дзяржаўную пасаду — кіраўніка парламенцкай камісіі па кантролі за дзейнасцю паліцыі.

Праўда, пасаду ён атрымаў не дзякуючы росту папулярнасці сярод чэхаў ідэяў марксізму-ленінізму, а ў выніку шэрагу абставін. Урадавая партыя, якая фактычна належыць алігарху Андрэю Бабічу, не мае абсалютнай большасці ў парламенце, і для прыняцця законаў ёй патрэбныя галасы дэпутатаў іншых партструктур, у тым ліку камуністаў.

Хаця за камуністаў на апошніх выбарах галасавалі каля 8 працэнтаў чэшскіх выбаршчыкаў, абранне Андрачка выклікала вялікі рэзананс у грамадстве. Да Аксамітавай рэвалюцыі 1989-га Андрачэк быў паліцэйскім і сябрам арганізацыі, якую ўлада выкарыстоўвала для фізічнага ціску на дысідэнтаў. Не дзіўна, што цяперашні кіраўнік камісіі па кантролі за паліцыяй на нейкі час трапіў пад люстрацыю.

У прынцыпе, Андрачэк дасюль настальгуе па мінуламу. Акрамя таго, у 2016 годзе ён наведваў данецкіх сепаратыстаў.

Варта нагадаць, што ў лютым славацкія архіварыусы знайшлі сенсацыйныя дакументы. Паводле іх, да 1989 года працаваў на камуністычныя спецслужбы і сам Андрэй Бабіч.

### Уладзімір Жырыноўскі



Лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі (ЛДПР) у рамках дэбатаў кандыдатаў у прэзідэнты зрабіў нечаканыя захады ў бок нацыянальных меншасцяў.

Галоўны ліберал-дэмакрат нагадаў, што ў Расіі ёсць цюркамоўныя народы. Ім, па словах палітыка, было б цікава, каб кіраўнік краіны гаварыў не толькі на рускай, але і на татарскай, башкірскай і іншых мовах. Пасля чаго Вольфавіч зрабіў невялікую прамову на татарскай мове і папрасіў, «каб усе цюркамоўныя народы» аддалі яму свой голас. «Ім прыемна, каб прэзідэнт Расіі гаварыў на іх мове. Бо заўсёды было толькі на рускай мове, а я буду звяртацца да іх і на татарскай», — падкрэсліў кандыдат.

Незвычайны спіч, тым не менш, многія татары не ўспрынялі. У Казані кажуць, што Жырыноўскі ў дэбатах прамаўляў «дакладна не на татарскай мове». На думку большасці, той казаў на нейкім дыялекце турэцкай мовы, якую калісьці вывучаў у ВНУ. Акрамя таго, Жырыноўскаму ў Татарстане ўзгадалі пазіцыю ліберал-дэмакратаў адносна праблемы вывучэння татарскай мовы ў школах. «Калі ласка, вывучайце ўсе, хто хоча, але добраахвотна. Нельга навязваць яшчэ другую мову», — заявіў тады Жырыноўскі.

### Яраслаў Качыньскі



Старшыня польскай урадавай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) і нефармальны кіраўнік краіны трапіў пад крытыку праз тое, што дзяржава праігнаравала 50-ю гадавіну сакавіцкіх падзей 1968 года.

Сакавік 1968-га — яскравая старонка польскага антыкамуністычнага супраціву. Праз намер уладаў зняць з рэпертуару аднаго з тэатраў патрыятычны спектакль «Дзяды» ў лютым 1968-га ў шэрагу польскіх ВНУ пачаліся хваляванні. 8 сакавіка каля сталічнага ўніверсітэта адбылася буйная дэманстрацыя, якую падтрымалі настаўнікі і інтэлігенцыя. Пратэсты, удзельнікі якіх патрабавалі дэмакратызацыі сацыялізму, цягнуліся прыкладна да канца сакавіка. Іх атрымалася лакалізаваць не толькі за кошт масавых арыштаў (каля 2500 чалавек), аднак і бруднай прапагандысцкай кампаніі. Простым палякам навязвалася думка, што пратэстоўцы — пераважна габрэі.

Падзеі 1968-га лічацца вельмі важнымі для лёсу Польшчы, паколькі стварылі цэлую генерацыю апазіцыянераў, якія, па сутнасці, і складалі падмурак руху «Салідарнасць». Нездарма пасля перамогі дэмакратыі сакавік 1968-га заўжды адзначаўся на афіцыйным узроўні. А вось цяперашні юбілей святкуюць выключна грамадскія арганізацыі.

Абыякавасць ураду тлумачаць тым, што большасць лідараў сакавіка 1968-га сёння знаходзіцца ў апазіцыі.

Таццяна ПРОЦЬКА

**Распад Расійскай імперыі ў 1917 годзе паставіў перад беларускімі палітычнымі і грамадскімі дзеячамі вельмі складаныя пытанні, на якія трэба было тэрмінова знайсці адказы. Прычым вырашаць праблемы трэба было адначасова і так, каб задаволіць усіх.**



Калаж www.svaboda.org

**Усебеларускі з'езд, які працаваў у Мінску, у ноч з 17 на 18 снежня быў гвалтоўна разагнаны па загадзе Ландэра. Але з'езд паспеў абраць Раду, якая, з пункту погляду тагачаснага права, мела юрыдычныя падставы прадстаўляць інтарэсы беларускага народа**

# 100 гадоў БНР: Дакументы сведчаць

## Ці дасягнутыя ідэалы БНР

Як дамагчыся аб'яднання ўсіх тэрыторый, на якіх жывуць беларусы, у дзяржаўна-адміністрацыйную адзінку? Беларуская дзяржаўна-адміністрацыйная адзінка будзе часткай іншай дзяржавы ці самастойнай дзяржавай? Калі часткай іншай дзяржавы, дык якой? Якія правы павінна мець беларуская дзяржаўна-адміністрацыйная адзінка ў складзе іншай дзяржавы? Якой па форме і змесце павінна быць улада на тэрыторыі Беларусі? Як вярнуць акупаваныя падчас Сусветнай вайны землі пад беларускае кіраўніцтва, як вярнуць на Беларусь яе жыхароў, якія падаліся ў бежанства? Адназначнага адказу на гэтыя пытанні не было — розныя палітычныя сілы прапаноўвалі свае мадэлі.

Сярод палітычных і грамадскіх дзеячаў і арганізацый, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, пераважная большасць прытрымлівалася сацыялістычных поглядаў. На тыя часы ў агульным плане гэта выглядала як прыярытэт справядлівасці над законам, праўды над правам. Формай землеўладання і арганізацыі найбольшай сацыяльнай групы беларускага насельніцтва — сялянства — прапанаваліся сялянскія абшчыны (камітэты), якая б забяспечвалі існаванне калектыўных формаў жыцця і працы. Прадугледжваўся непасрэдны ўдзел народа ў стварэнні законаў і ў кіраванні дзяржавай.

На пачатак 1918 года ў беларускім грамадстве былі агучаныя і сталі найбольш вядомыя два погляды на лёс Беларусі. Першы з іх быў сфармуляваны ў кастрычніку 1917 года ў звароце «Ко всему Народу Белорусскому». Гэты зварот падпісалі Выканаўчы камітэт Вялікай беларускай рады, Выканаўчы камітэт Цэнтральнай вайсковай беларускай рады і Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту.

У звароце, у прыватнасці, было занатавана наступнае (захаваны правапіс арыгінала): «Белоруссия, включающая в свои пределы Виленскую, Витебскую, Гродненскую, Минскую, и Могилевскую губ., западные уезды Смоленской губ. и северные уезды Черниговской губернии, является единой и неделимой страной, спаянной братскими узами со всей остальной Федеративной Российской Республикой. В данный момент только своими силами сможет она отстоять свою волю и обеспечить свои национальные судьбы в дальнейшем... Един и неделим народ белорусский. Религия не должна служить причиною розни между православными и католиками белорусами, потому что они — один народ с общим языком и историей. Белоруссия должна быть демократической республикой, спаянной с Великороссией и другими соседними Республиками России на основе федерации. В пределах автономной Белоруссии все прочие народности края должны пользоваться национально-персональной автономией. Вся власть в Белоруссии должна принадлежать Краевой Раде, избираемой на основах всеобщего, равного, тайного и пропорционального голосования. Вопросы общегосударственного строительства, вопросы международной политики и торговые договоры с иностранными государствами должны входить в компетенцию высшего законодательного органа Российской демократической федеративной республики. Никаких таможенных границ между Белоруссией и остальными республиками Российской федерации не должно быть. Краевой Раде должно принадлежать право созидания местных законов, развития, разработки и применения к местным условиям законов, издаваемых высшим законодательным органом Российской демократической республики... Проведение в жизнь обязательного бесплатного обучения, поднятие и развитие белорусской культуры, изучение истории края и родного языка являются жизненным интересом белорусского народа. Основание в Белоруссии высших учебных заведений: университетов, сельскохозяйственных и политических институтов и проч. является крайне необходимым для поднятия культурных сил страны».

> Кіраўніцтва бальшавікоў, што ў той час знаходзілася на Беларусі, лічыла: беларусаў як нацыі не існуе

Такую мадэль развіцця Беларусі падтрымалі беларускія сацыял-дэмакраты: як меншавікі, так і пэўная частка бальшавікоў — Белнацком, які быў створаны пры СНК РСФСР. Няцяжка заўважыць, што менавіта гэтая мадэль развіцця ажыццяўлялася ў савецкай Беларусі ў 1920-я гады — толькі Краевая Рада мела іншую назву.

У Звароце таксама вызначалася, што ўладу, якая будзе клапаціцца пра нацыянальныя беларускія інтарэсы, народ павінен абраць на з'ездзе прадстаўнікоў народа ў снежні 1917 года ў Мінску.

Усебеларускі з'езд, які працаваў у Мінску, у ноч з 17 на 18 снежня быў гвалтоўна разагнаны па загадзе старшыні Савета народных камісараў Заходняй вобласці і фронту Карла Ландэра. Але з'езд паспеў абраць Раду, якая, з пункту погляду тагачаснага права, мела юрыдычныя падставы прадстаўляць інтарэсы беларускага народа. Са свайго складу Рада абрала Выканаўчы камітэт, які са студзеня 1918 года з'яўляўся адзіным прадстаўніком інтарэсаў беларускага народа, у першую чаргу, на акупаваных тэрыторыях.

Бальшавікі і іх кіраўніцтва, што ў той час знаходзілія на тэрыторыі Беларусі, лічылі: беларусаў як нацыі не існуе. У верасні-кастрычніку 1918 года ў газеце беларускіх бальшавікоў «Звезда» яе рэдактар Вільгельм Кнорын (у Мінску ёсць вуліца, што носіць гэтае імя), надрукаваў некалькі артыкулаў, у якіх, у прыватнасці, зазначыў: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты». Вядома, ніякай дэмакратычнай беларускай рэспублікі нават у складзе РСФСР яны бачыць не хацелі.

У лютым 1918 года Германія спыніла мірныя перамовы, распачатыя ў Брэсце, і пачала наступ па ўсім фронце — ад Пінска да Рыгі. Савет народных камісараў Заходняй вобласці і фронту 19 лютага выехаў у Смаленск. У гэты перыяд Выканкам Усебеларускага З'езду ўзяў на сябе адказнасць за лёс беларускага народу — пра гэта ён абвясціў у дакументце пад назвай «Першая Устаўная грамата да народаў Беларусі» (21 лютага 1918 года). І ўжо ў сакавіку 1918 года была выпрацаваная і абнародаваная новая мадэль развіцця Беларусі.

Гэтая мадэль коратка выкладзеная ў «Другой Устаўнай грамаце да народаў Беларусі» ад 9 сакавіка 1918 года (захаваны правапіс арыгіналу): «У часе сусветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзержавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзержаўнага жыцьця. Пасьля трох с паловай вякоў і няволі ізноў на увесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ен жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 5-17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўнаючы волю Зьезду і баронючы дзержаўные правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрою Беларусі і аб правах і вольнасцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох разсяленьня і лічбеннай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.
2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнаго, роўнаго, простаго, патаемнаго і прапарцыянальнаго выбарчага права, ні зважаючы на пол, народнасць і рэлігію.
3. Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, законадаўчая ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меньшасцяў Беларусі.
4. Спаўняючая і адміністратыўная ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ею трымае атвет.
5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумлення, нізачэпнасьць асобы і памяшкання.
6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права усіх моваў народаў Беларусі.
7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, хто самі на ей працуюць. Лясы, вазеры і нутро зямлі абвяшчаецца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.
8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі устаноўляецца найбольшы 8-і гадзіновы рабочы дзень.

Абвяшчаючы усе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця у Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасці працоўнаго люду. А так сама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часі Устаноўчы Сойм Беларусі. Усіх сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкай і атветнай нашай працы».

Відавочна, што толькі праз 100 гадоў беларускаму народу ўдалося дасягнуць абвешчаных кіраўніцтвам БНР «правоў і вольнасцяў». І тое пакуль яшчэ не на поўную моц.

# «Наша Сібір»: што мы знайшлі і згубілі на бяскрайніх прасторах імперыі?

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Алесь КІРКЕВІЧ

**Што такое Сібір для беларусаў? Для адных — галгофа, куды стагоддзямі ўзыходзілі нашы суайчыннікі, сімвал катаргі і ГУЛАГу. Для іншых — дагэтуль нязменная крыніца для выездаў на заробкі. Мы паспрабавалі прайсці зарослымі таежнымі сцяжынамі нашай гісторыі ды разабрацца, ці маюць беларусы нейкія правы на гэты ласы для ўсіх кавалак сушы.**

Сёння на зямлі ёсць тры тэрытарыяльна вялікія імперыі: Кітай, ЗША ды Расія. У пазамінулым стагоддзі можна было казаць пра агромністыя еўрапейскія імперыі, раскіданыя па свеце: французскую Афрыку, брытанскую Індыю ды Аўстралію і г.д. Сёння імперыі — гэта сканцэнтраваныя тэрыторыі з непарыўнай мяжой. Ці дадае ім гэта ўнутранай еднасці — іншае пытанне.

Праз фільмы і кніжкі, канешне, найбольш мы ведаем пра фармаванне Злучаных Штатаў. Гэта добры сімвал таго, як англасаксонскі свет «перацёк» на іншы кантынент ды ўтварыў унікальную дзяржаву — плавільны кацёл. Нашы веды пра фармаванне Кітая мінімальныя: мы гэтым наўпрост не цікавімся. Таму не заўсёды здагадваемся, што на поўдні краіны кітайцы дагэтуль гавораць зусім іншай моваю за сваіх суайчыннікаў на поўначы, нягледзячы на высілкі спачатку імперскай, а пасля камуністычнай адміністрацыі.

А што з Расіяй? Нашы веды пра фармаванне «рускага свету», па праўдзе, таксама павярхоўныя. Нехта чуў пра Ярмака, нехта — пра Хабарава і Дзяжнёва і… усё. Гісторыя таго, адкуль у Масквы такія велізарныя тэрыторыі, для большасці так і застаецца таямніцай. Сённяшняя Расія не была б сабой, калі не валодала Сібір'ю — то бок усім тым, што мы бачым на мапе на ўсход ад Уралу. Расія і ў сваёй еўрапейскай частцы — вялізная дзяржава, але разам з Сібір'ю — гіганцкая.

## Міфічная дзяржава з «качуючай» сталіцай

Сёння даследчыкі лічаць, што на момант інтэнсіўнага засваення, з канца XVI да пачатку XVIII стагоддзя, ва ўсёй Сібіры аднамомантна жылі каля 200 тысяч чалавек — лічы, насельніцтва аднаго раёна Мінска. У гэтай лічбе — безліч народаў: качэўнікі, якія мелі нейкую дзяржаўнасць (кшталту напалову міфічнага Сібірскага ханства), качэўнікі з першабытным ладам жыцця (чукчы), а яшчэ калмыкі, бураты, кіргізы ды іншыя.

Усю Сібір за два стагоддзі заваявалі максімум 10 тысяч чалавек — гэта прыкладная колькасць усіх прыхадняў з еўрапейскай часткі Расіі, якія туды пацягнуліся. Скажам, войска Ярмака, які перамог хана Кучума і знішчыў Сібірскае ханства, — гэта ўсяго толькі атрад з некалькіх соцень байцоў.

Калі маскоўскія цары, а дакладней пасяленцы-авантурысты, ішлі ў Сібір, ім не трэба было ані тамтэйшых тэрыторыяў, ані народаў. Навошта? Расія канца XVI стагоддзя — і без таго вялізная дзяржава, якая ўжо зрабіла лёсавызначальныя захопы, хоць ВКЛ ды Украіна яшчэ трымаліся. Пэўным пераломам было падпарадкаванне Ноўгарада ў другой палове XV стагоддзя. Як вядома, наўгародскія крывічы паспелі ўтварыць асобны цывілізацыйны феномен… Шкада, ненадоўга. Цікава, што менавіта наўгародцы ды архангельцы яшчэ ў XV стагоддзі хадзілі за Урал, былі першапраходцамі. Другім пасля Ноўгарада фактарам было пакарэнне Казанскага ханства ў 1550-х гадах. Пасля гэтага Іван Жахлівы атрымаў і тэрыторыі, і новых падданых, і шлях на Усход, бо за Казанню пачыналася акурат Сібірскае ханства. Што гэта было за ўтварэнне? Качуючая дзяржава? І ці дзяржава наогул?.. Адназначна ў ханства не было межаў, бо яны губляліся ў глыбінях Сібіры. Не было гарадоў — быў хан са сваім станам, які пераязджаў з месца на месца. Дзе спыніцца хан — там і сталіца.



Малюнак Мікалая Фаміна да «Сібірскай кнігі»



Джунгары, сучасная рэканструкцыя

## Собаль, які стварыў імперыю

Каб разабрацца, навошта авантурысты туды ішлі, трэба ведаць, навошта Сібір Расіі ў прынцыпе. Ва ўсе часы Сібір для Масквы была крыніцай валюты.

Міхаіл Крэчмар кажа, што Русь пайшла ў Сібір за собалем, бо ў яе не было ніякай канвертуемай валюты — таго, што можна было б адпраўляць на экспарт за мяжу і атрымліваць з таго грошы ці іншы тавар. Не было запасаў срэбра і каштоўных камянёў, а экспарт жыта, дрэва, пянькі, металаў і іншага пачаўся адно ў часы Пятра І.

Хутка стала зразумела, што галоўны прадмет, які дае Сібір, — собаль, — прадаваўся досыць дорага. У адрозненні ад лісы і гарнастая (чарнабурка жыла занадта далёка, у Амерыцы), собаль — тое, што трэба. Усе цікавыя ўзброеныя кампаніі, якія сунуліся ў Сібір, ішлі туды па «ясак» — падатак собалем з сібірскіх народаў. То бок, прыходзілі казакі і безапеляцыйна абкладалі народы данінай. Той, хто плаціў, атрымліваў адмысловы ясачны жэтон альбо ясачны знак — сімвал гадавой аплаты. Каб народам Сібіры было весялей, знак часам рабіўся на спецыяльным корцiку — так падаткаплацельшчык атрымліваў у рукі хоць нешта карыснае.

## Ад 30 да 70 ліцвінаў ехала ў Сібір кожны год

Хто ішоў у Сібір? Як кажа Міхаіл Крэчмар, з 10 тысяч чалавек, якія скаралі Сібір, палова — гэта татары і башкіры, яны ішлі ў авангардзе. Мінімум чвэрць — ліцвіны або выхадцы з ВКЛ. І ўсяго толькі апошняя чвэрць — гэта рускія-маскавіты ў купе з рознымі авантурыстамі з Еўропы (французы, вугорцы, італьянцы), якія прыбадзяліся сюды рознымі шляхамі.

Што ж там рабілі ліцвіны, якіх налічваецца не адна тысяча? Гэта альбо палонныя войнаў Рэчы Паспалітай з Масковіяй, альбо іх нашчадкі. Даследчыкі адзначаюць, што калі ідзе пералік асабовага складу нейкага паходу, то экспедыцыя складаецца, напрыклад, з 200 татараў, 50 ліцвінаў, 40 казакоў і 10 «баярскіх дзецюкоў» — своеасаблівы стандарт.

Захаваліся так званыя «Сібірскія спісы». Паводле іх можна прасачыць, што кожны год-два на працягу XVII стагоддзя ў Сібір па загадзе Масквы адпраўлялася ад 30 да 70 ліцвінаў. Безумоўна, гэта былі мужчыны, жанчынам там не было чаго рабіць. На 90% гэта была шляхта, якая трапляла ў палон, умела абыходзіцца са зброяй. Шмат хто з іх ліку заняў пазней важныя пасады і адыграў не апошнюю ролю ў асваенні Сібіры. А многія, наогул, увайшлі ў гісторыю.

## «Забіў ваяводу і 10 гадоў адбіваўся ад кітайцаў…»

Для прыкладу згадаем некалькі біяграфій. Адным з першых вядомых ліцвінаў быў Якаў Тухачэўскі (знаёмае прозвішча, праўда?). Сам Тухачэўскі паходзіў са смаленскай шляхты, служыў у войску Ілжэдзмітрыя І, трапіў у палон. На гэтым ягоная кар'ера не скончылася, бо менавіта пану Якаву давялося стаць адным з заснавальнікаў неіснуючых сёння вялікіх сібірскіх гарадоў — Тары і Мангазеі — на пачатку XVII стагоддзя.

Іншы персанаж — гэта Даніла Аршынскі (прозвішча, зразумела, паходзіць ад Оршы). Лічыцца, што ён быў сынам аднаго з жаўнераў ВКЛ, жыў у сярэдзіне XVII стагоддзя, і занесла яго ажно ў Нерчын. Пазней Нерчын стаў вядомай катаргай, але на той момант — гэта адна з рускіх цвярдыняў Прыамур'я. Даніла доўгі час ваяваў з кітайцамі, даслужыўся да ваяводы. Кар'ерны ланцужок тады мог выглядаць так: просты казак — дзясятнік — пяцідзясятнік — «дзяцюк баярскі» (паўнавартасны шляхціц) — а пасля ўжо і ваявода.

Быў яшчэ такі Нікіфар Чарнігаўскі, які паходзіў з Украіны, — удзельнік Смаленскай вайны 1630-х гадоў. Пасля палону з экспедыцыяй яго адправілі ў Сібір, там ён ажаніўся. І тут бяда: ваявода згвалціў яго жонку і дачку. Нікіфар разам з кампаньёнамі забіў ваяводу і паехаў у Албазіна — населены пункт на мяжы з Кітаем на Амуры. Ён тое Албазіна адрадзіў, збудаваў крэпасць. Руская яго прысудзілі да смерці, а ён там сядзеў і… на працягу 10 гадоў адбіваўся ад навалы кітайцаў. З кітайцамі тады ішла зацяжная вайна, якая скончылася адно ў 1689 годзе Нерчынскім замірэннем, якое на 200 гадоў наперад вызначыла мяжу Расіі і Кітая.

## Каму дастанецца сібірскі хлеб?

Заваяванне Сібіры выглядала па-рознаму, не толькі «агнём і мячом». Былі, скажам, народы Тайгі, якія падзенне Кучума і Сібірскага ханства ўспрынялі пазітыўна. Бо Кучум, калі яны наогул чулі пра яго асабіста, быў галоўным мясцовым рабаўнiком. А рускім быў патрэбны адно ясак — больш нічога іх не цікавіла. Праблемы з мясцовымі пачаліся ўжо пазней, калі заваёўнікі прынеслі алкаголь і захворванні… Усё гэта набрала абароты ўжо ў XIX стагоддзі.

Разам з тым, не ўсё ў заваёўнікаў складалася проста. Калі рускія дайшлі амаль да Прымор'я, паўстала праблема: калі ісці на поўдзень, у бок мяжы з казахскім і мангольскім стэпам і Кітаем, можна было «нарвацца» на ваяўнічых качэўнікаў, з якімі Расія не магла даць рады ажно да канца XIX стагоддзя.

**Працяг чытайце ў наступным нумары**

# «Калі ўмееш пісаць, напішаш пра што заўгодна»



Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Алег Клімаў цяпер працуе ў газеце «Культура», а калісьці быў шэф-рэдактарам культавай «Музычнай газеты» (МГ), што выходзіла ў 1996–2007 гадах. Як пачыналася МГ, што ўяўляе сёння музычная журналістыка, ці жывая яна наогул? Пра гэта мы і пагутарылі.**

***— Ці жывая беларуская музычная журналістыка?***

— Канечне, жывая. Даволі шмат журналістаў спецыялізуецца на музыцы. У «Савецкай Беларусі» — Віка Папова, Віталь Пепеляеў у «Народнай газеце». Гэта тыя ж людзі, што пісалі і раней, 10–15 гадоў таму. Да нядаўняга часу ў «Знамени юности» працавала пад псеўданімам Люда Пагодзіна, таксама чалавек з абоймы музычных журналістаў, якая фармавалася ў канцы 1990-х — пачатку 2000-х. На «Анлайнеры» — Саша Чарнуха. Таня Заміроўская рэгулярна друкуецца ў «Большом», нягледзячы на тое, што ўжо некалькі гадоў жыве ў ЗША. Канечне, гэта не тое, што было раней, калі існавалі спецыялізаваныя выданні… Узгадаць нават нашу «Музычную газету», дзе круцілася шмат аўтараў. Не ўсе яны працавалі ў СМІ, некаторыя пісалі для душы, але іх таксама можна лічыць музычнымі журналістамі.

У выдавецтве «Нестар», што выпускала МГ, выходзілі таксама часопіс «Джаз-квадрат», металічны «М-часопіс» пад кіраўніцтвам Андрэя Мэна. Потым з'явіўся часопіс «Hot-7». Быў у нас такі холдынг людзей, што цікава пісалі. Макс Івашын, музыка «Нейра Дзюбеля» і сольны музыка, цяпер займаецца піярам. Андрэй Мэн, здаецца, працуе ў нейкім недзяржаўным друкаваным СМІ. Зміцер Бескаравайны — наша ўсё, займаецца маладымі музыкамі, вывозіць іх на фестывалі, вядзе сайт experty.by. Зміцер Падбярэзскі — замрэдактара часопіса «Мастацтва». Зміцер Борбуць, які ў МГ вёў лінію групы «Nirvana», займаецца, калі не памыляюся, дызайнам. Антон Ігонін — дзесьці ў вёсцы пад Піцерам робіць інтэрнэт-праекты. Мала што ведаю пра нашых аўтараў не з Мінска. Гена Шостак з Брэста і цяпер працягвае пісаць пра музыку. Легендарны чалавек у музычнай журналістыцы, шмат пісаў і піша для расійскіх сайтаў… Віталь Шум — матор магілёўскай субкультуры, дый не толькі музычнай, — некалькі гадоў таму закінуў удзел у андэграўндным жыцці. Вёў сайт morok.ru, які з паўгода таму закрыўся.







***— Маладзейшае пакаленне, можа, і не памятае, а ў пачатку 2000-х гадоў «Музычная газета» была сапраўды культавым выданнем, якое чыталі па ўсёй Беларусі, давалі абвесткі, знаходзілі сяброў для ліставання і ўдзельнікаў у гурты…***

— Калі стваралі газету, Анатоля Кірушкіна, гаспадара выдавецтва «Нестар», узялі «на слабо». Першы рэдактар, Саша Зеленер, сказаў нешта кшталту: «Вось вы ж выпускаеце «Камп'ютарную газету», «Будаўніцтва і нерухомасць», гэта прыносіць прыбытак. Давайце вас пусцім на музычнае выданне!» І Кірушкін пагадзіўся! Сам жа ён любіць джаз, выданне «Джаз-квадрат» у інтэрнэце існуе дасюль. Сайты «Музычнай газеты» і «М-часопіса» ўжо не працуюць, а на «Джаз-квадрат» можна зайсці, ён увесь час абнаўляецца.

Пілотны выпуск МГ выйшаў у канцы 1996-га. Я далучыўся ўвесну 1997-га. Саша Зеленер сышоў праз канфлікт з Кірушкіным, той запрасіў нас са Змітром Бескаравайным. Я адказваў за «ўсходні сектар» (Беларусь і постсавецкая прастора), а Зміцер — за «заходні». Дамовіліся, што асвятляем не папсовую музыку, не класічную, не джазавую, а рок, поп-рок, рэп, які тады ў Беларусі ўваходзіў у моду, — скажам, альтэрнатыву. Працавалі з пазаштатнікамі, часам звязваліся з заходнімі кампаніямі наконт інтэрв'ю і атрымання кампакт-дыскаў на рэцэнзію.

У МГ пісалі самыя крутыя музычныя дзеячы СНД, кшталту Джорджа Гуніцкага (гурт «Акварыум») і Аляксандра Кушніра. Ёсць байка, што знакаміты Атар Кушанашвілі раз на тыдзень прыходзіў да пэўнага маскоўскага шапіка, каб набыць МГ (мы і ў Маскве распаўсюджваліся). Першае інтэрв'ю з Земфірай (праўда, у фармаце міні), было надрукавана ў нас, узяла яго Люда Цітова ў Піцеры.

Пры МГ ніколі не было рэкламнага аддзела. У «М-часопісе» Андрэй Мэн змяшчаў нейкую рэкламу. Цяжкая музыка на пачатку 2000-х гадоў была моднай, камерцыйна паспяховай.

Потым стаў развівацца FM-эфір, інтэрнэт, з'явіўся Першы музычны канал, MTV да нас прыйшло… З'явіўся выбар інфармацыі — і, натуральна, пайшоў адток чытачоў МГ. Потым Саюздрук падняў цэны на распаўсюд, увесь час даражэла папера… Ну і ўсё. «Музыкалку» зачынілі ў самым канцы 2007-га з эканамічных прычын.

**У МГ пісалі самыя крутыя музычныя дзеячы СНД, кшталту Джорджа Гуніцкага (гурт «Акварыум») і Аляксандра Кушніра. Ёсць байка, што знакаміты Атар Кушанашвілі раз на тыдзень прыходзіў да пэўнага маскоўскага шапіка, каб набыць МГ. Першае інтэрв'ю з Земфірай было надрукавана ў нас**

***— Якім, на вашу думку, павінны быць канцэртны рэпартаж? Цяпер інтэрнэт-выданні часта абмяжоўваюцца галерэяй фота і ўводным абзацам з пералікам гуртоў…***

— Калі рэдактар дакладна не акрэслівае ТЗ, то найлепш пісаць так, як на душу ляжа. Калі ты «ў тэме» канцэрту ці прынамсі некаторых выканаўцаў, то прасцей, канечне. Тады можна нават уставіць аналітыку. Калі ты не ў тэме, але ёсць заданне, ты можаш пісаць на эмоцыях: успрыняцце, уражанні… А раптам табе спадабаецца? Калі ўмееш пісаць, напішаш пра што заўгодна.

Матэрыял можа выглядаць па-рознаму, можа быць вялікая доля суб'ектыўнага бачання… Як журналісту на душу ляжа. Мне толькі за адзін свой матэрыял было сорамна, калі ў Мінску праходзіў спектакль «Авалы» Вячаслава Бутусава. Удзельнічаў наш гурт «Плато», падыгрываў Андрэй Дзяменцьеў з «Калі Югі», быў нейкі дзіцячы хор…

А ў мяне настрой быў не вельмі… Калі настрою няма і маеш магчымасць не пісаць — лепш не пішы. І я неяк адмахнуўся… Спектакль мне сапраўды не спадабаўся. Але тут такая тонкасць, што я хадзіў на ўсе яго рэпетыцыі, добра ведаў прадусара, які з нашага боку гэта рабіў, Івана Паланейчыка, і рэжысёрку, Алену Чыжову. Вельмі добрыя людзі, мы пасябравалі, а я потым узяў — і абы-што напісаў. Трэба было неяк інтэлігентней, ці што. Я чакаў ад спектакля большага, хоць і разумеў, што пры наяўных магчымасцях супер-пупер не атрымаецца. З музычнага боку было ўсё добра, а аформіць не выйшла. А афармленне адыгрывае вельмі істотную ролю! Іван Іванавіч пакрыўдзіўся на мяне. Пару гадоў таму я рабіў з ім інтэрв'ю для «Культуры», вельмі баяўся ісці. Але мы добра пагутарылі.

***— Чым адрозніваецца музычнае блогерства ад музычнай журналістыкі?***

— Сёння мяжа, напэўна, размываецца. Колькасць чытачоў і дыплом журналіста не адыгрываюць галоўнай ролі. Я не маю журналісцкай адукацыі. А для часопіса «Нэссі» калісьці браў інтэрв'ю ў Зянона Пазняка, Станіслава Багданкевіча, Аляксандра Фядуты… Праўда, у грамадска-палітычным выданні мне было не дужа цікава працаваць. Я быў меламанам і хацеў пісаць пра музыку, чым і стаў займацца ў жаночым часопісе «Залатая архідэя». Потым працаваў пазаштатнікам у «Музычнай газеце», і мне неўзабаве прапанавалі ўвайсці ў штат. Я не займаўся інтэрнэт-версіяй выдання. Канечне, у журналістаў з боку блогераў вялікая канкурэнцыя. Павінны «зачапіць» першы-другі сказ, каб чалавек прачытаў. Гэтак жа і ў музычнай індустрыі: калі выканаўца прыносіць выдаўцу дыск — слухаюць сем секунд і прымаюць рашэнне, ці варта выдаваць. Ну, можа, не сем секунд, а адзін куплет і прыпеў.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №238

Падпісана да друку 09.03.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.